12 лютага 2021 | № 6 (714)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Спорт, які мы заслужылі

стар. 11

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Помста за праўду

Аксана КОЛБ

**Колькі ў Беларусі журналістаў незалежных медыя? Крыху больш за тысячу. Колькі разоў са жніўня 2020 года незалежных журналістаў затрымлівалі? Амаль пяцьсот. На сённяшні дзень за кратамі 11 незалежных журналістаў. Прычым 9 з іх — па крымінальных артыкулах. Проста задумайцеся наконт гэтых лічбаў.**

Першы суд па крымінальнай справе пачаўся 9 лютага. І хаця спадзяванні на здаровы сэнс застаюцца, можна чакаць, што за сваю сумленную працу і жаданне данесці да людзей праўду 27-гадовая Кацярына Андрэева (Бахвалава) і 23-гадовая Дар'я Чульцова будуць пакараныя рэжымам.

Перад пачаткам працэсу Каця перадала з СІЗА заяву. «9 лютага мяне пачнуць судзіць па ілжывым абвінавачванні ў "арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак", — напісала яна. — Мая справа ад пачатку і да канца сфабрыкаваная, прычым сфабрыкаваная вельмі няўмела. Я лічу гэта помстай спецслужбаў за прафесійную журналісцкую дзейнасць.

15 лістапада мяне затрымалі па злачынным загадзе. У той дзень сілавікі казалі мне: "Ты больш не будзеш весці свае стрымы ніколі!" Затым зноў выйшаў злачынны загад — і мяне змясцілі ў турму. Амаль тры месяцы я правяла за кратамі. Па іх задуме, зняволенне павінна было зламаць мяне і прымусіць усумніцца ў правільнасці абранага шляху. Аднак нічога падобнага не адбылося. Гэты час у СІЗА толькі загартаваў мой характар. А неверагодная падтрымка з волі напаўняла радасцю кожны дзень.

Разам з тым, я разумею, што неабходна разарваць ланцуг выканання злачынных загадаў і звяртаюся да суда з просьбай зрабіць гэта нарэшце. Выконваць злачынны загад — значыць удзельнічаць у злачынстве. Але за злачынствам рушыць услед раскаянне, і менавіта яно стане найбольш страшным пакараннем, таму што будзе атручваць вам жыццё, не даючы спакою да глыбокай старасці.

Што тычыцца мяне, то я буду шчаслівая незалежна ад прысуду, таму што сумленне маё чыстае, а праўду казаць лёгка і прыемна».

Так, сапраўды, праўду казаць лёгка і прыемна. За праўду не страшна пайсці на любыя выпрабаванні. Праўду не любяць, яе баяцца, за яе помсцяць. Але праўда заўжды перамагае. Шкада, што гэтага не хочуць ведаць такія ж маладыя жанчыны, фактычна аднагодкі журналістак Кацярыны Андрэевай і Дар'і Чульцовай — суддзя Наталля Бугук і пракурор Аліна Касьянчык. Тыя самыя, якія ўжо адзначыліся гучнымі працэсамі.

Шкада, што Аліна Касьянчык абсалютна без пакутаў сумлення чытала ў залі пасяджэнняў №5: «из корыстных побуждений, находясь по адресу Сморговский тракт, 1, по предварительному сговору друг с другом и иными неустановленными лицами они имели умысел на организацию действий, грубо нарушающих общественный порядок, которые были сопряжены с явным неповиновением требованиям правоохранительных органов и повлекшее нарушение работы транспорта. Преступление совершали с помощью мобильных телефонов, видеокамер, штатива и жилетов с надписью "Пресса"», «путем озвучивания информации» яны здзейснілі «сбор активных участников, грубо нарушающих общественный порядок», «с целью создания массовости для возможности противостояния действиям сотрудников правоохранительных органов».

А можа я і памыляюся. Магчыма, яна таксама пакутавала… Можа, расказвала сябрам, як гэта цяжка — выконваць загады. Але, маўляў, што зробіш, такая ж праца. Наогул, цікава, што на ўсіх працэсах па крымінальных справах за пратэсты апошніх месяцаў суддзямі і пракурорамі часта прызначаюцца маладыя жанчыны. Магчыма, калі-небудзь на іншых працэсах мы пачуем пра тое, чаму яны пагадзіліся на гэтыя ролі. Але яны не змогуць тады сказаць: «Я буду шчаслівая незалежна ад прысуду, таму што сумленне маё чыстае».

Моцныя духам, упэўненыя ў сваёй праваце, падтрыманыя сябрамі, калегамі і зусім незнаёмымі людзьмі — такімі ўвойдуць у падручнікі Каця і Даша. А хто будзе памятаць Наталлю і Аліну? Хаця ў іх яшчэ ёсць шанец увайсці ў гісторыю са станоўчымі ролямі. Маленькі, амаль неверагодны, але ёсць.

«Я патрабую поўнага апраўдання і настойваю на сваёй невінаватасці», — такімі словамі скончыла Кацярына Андрэева свае паказанні. Зал адказаў апладысментамі. Судовае пасяджэнне працягнецца 16 лютага. А 19 лютага пачнецца суд над журналісткай Кацярынай Барысевіч і доктарам Арцёмам Сарокіным па чарговым сфабрыкаваным абвінавачванні.

Яшчэ раз нагадваю: за кратамі ўсё яшчэ застаюцца 11 незалежных журналістаў.

# За рэпост — 52 базавых з канфіскацыяй тэлефону

Марат ГАРАВЫ

**Жыхар вёскі Дзявяткі, інвалід ІІ групы Алесь Kраўчук за выпадковы рэпост аштрафаваны на 52 базавыя велічыні з канфіскацыяй тэлефону. Такі вынік двух судовых працэсаў, што 5 лютага завяршыліся ў судзе Кобрынскага раёна.**

Пачалася гэтая гісторыя 13 лістапада мінулага года ў 22.04, калі з тэлефона спадара Алеся ягоная 11-гадовая дачка Настасся выпадкова зрабіла ў чат тэлеграм-канала «Кобрын для жыцця» рэпост заклiку да ўшанавання памяці Рамана Бандарэнкі з тэлеграм-канала, які 23 лістапада ў Беларусі прызнаны экстрэмісцкім.

Праз два дні, 15 лістапада ў 12.27, спадара Алеся затрымалі ў цэнтры Кобрына і завезлі ў мясцовы РАУС, дзе ў інваліда забралі тэлефон, а ўчастковы інспектар міліцыі Уладзімір Брыштэль склаў на мужчыну пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні згодна ч.1 артыкула 23.34.

Амаль праз два месяцы, 13 студзеня, суддзя Таццяна Каберская пакарала інваліда штрафам у 12 базавых велічынь за публічны заклік да правядзення несанкцыянаванага масавага мерапрыемства.

Падчас абскарджавання гэтага судовага выраку Алесь Kраўчук дазнаўся, што ягоны тэлефон па-ранейшаму арыштаваны ў рамках другой адміністрацыйнай справы — па частцы 2 артыкула 17.11 КаАП РБ (распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі, якая ўключана ў рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў, а таксама выраб, выданне, захоўванне ці перавозка з мэтай распаўсюду такой інфармацыйнай прадукцыі).

Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па другой справе на інваліда 31 снежня 2020 года склаў участковы інспектар міліцыі Анатоль Тарасюк згодна рапарту ад 15 лістапада старшага ўпаўнаважанага Кобрынскага РАУС Сяргея Казюка.

Першае пасяджэнне па разгляду гэтай справы адбылося 11 студзеня, а апошняе — 5 лютага, калі суддзя Вадзім Зданоліч пакараў Алеся Kраўчука штрафам у 40 базавых велічынь з канфіскацыяй ягонага тэлефону.

Адвакатка Наталля Півавара ва прасіла суд спыніць справу, апраўдаць Алеся Kраўчука і вярнуць яму тэлефон. Сваю просьбу матывавала наступным: доказы, даследаваныя ў судзе, вызначаюць, што Алесь Kраўчук не рабіў рэпост; тэлеграм-канал, з якога быў зроблены рэпост, толькі праз 10 дзён пасля гэтага быў уключаны ў спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў, што выключае прыцягненне падабароннага да адміністрацыйнай адказнасці паводле ч. 2. арт. 17.11 КААП Рэспублікі Беларусь.

У выніку за выпадковы рэпост суддзі двойчы пакаралі інваліда агулам на 52 базавыя велічыні з канфіскацыяй тэлефона. Спадар Алесь віны сваёй не прызнаў і будзе абскарджваць абодва прысуды.

Трэба зазначыць, што 51-гадовы жыхар вёскі Дзявяткі Кобрынскага раёна Алесь Kраўчук стаў інвалідам пасля выбуху 16 жніўня 2016 года на газазаправачнай станцы ў горадзе Баранавічы. Гэтым выбухам у мужчыны адарвала левую нагу па калена, пацярпелі таксама жонка і сын спадара Алеся. Па факце выбуху 1 лістапада 2017 года была заведзеная крымінальная справа, якая не завершаная да гэтага часу.

10 жніўня мінулага года ў цэнтры Кобрына інваліда разам з 22-гадовым сынам-студэнтам Уладзіславам затрымалі сілавікі. Пры гэтым мужчына атрымаў траўму левага плечавога суставу, а ягоны пратэз быў пашкоджаны. Усе спробы Алеся Kраўчука распачаць па гэтым факце крымінальную справу нічога не далі. Бацька быў вызвалены ад адміністрацыйнай адказнасці з-за недаказанасці віны, а сына закратавалі на трое сутак і аштрафавалі на 10 базавых велічынь.

# Замест 540 рублёў штрафу жыхарка Лельчыц страціла 800 долараў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ці маюць права судовыя выканаўцы спаганяць штрафы з безадзыўных рахункаў?**



Фота www.sputnik.by

Прыкрая гісторыя адбылася з жыхаркай пасёлка Лельчыцы Гомельскай вобласці Аленай Ляшчынскай. Жанчыну аштрафавалі за ўдзел у пратэстах. Частку штрафу яна сплаціла, а потым трапіла ў шпіталь з каронавірусам. Тым часам судовыя выканаўцы спісалі грошы з яе безадзыўнога банкаўскага рахунка, і ў выніку назапашаныя за тры гады працэнты згарэлі.

### Пра спісанне грошай даведалася выпадкова

У кастрычніку Алену Ляшчынскую аштрафавалі на 20 базавых велічынь за выхад у цэнтр горада, які палічылі ўдзелам у несанкцыянаванай масавай акцыі. Разам з Аленай на 5 базавых аштрафавалі і яе 17-гадовую дачку, але той на пасяджэнні камісіі па справах непаўналетніх дазволілі выплаціць спагнанне цягам паўгода.

Калі ж прыйшоў час сплачваць штраф Алене, яна раптоўна захварэла на каронавірус і трапіла ў бальніцу. Што праўда, яна паспела пагасіць частку спагнання — 200 рублёў, і заставалася яшчэ сплаціць 340. Але пакуль жанчына тры тыдні ачуньвала ад хваробы, судовыя выканаўцы без папярэджання знялі суму штрафу з яе безадзыўнога ўкладу ў «Беларусбанку». Вастрыні сітуацыі дадало тое, што грошы на штраф спісалі ў апошні дзень, калі, паводле дамовы, гэтага нельга было рабіць — інакш згараюць усе назапашаныя працэнты. Такім чынам, замест 540 рублёў штрафу жанчына згубіла 800 долараў ЗША.

— Яны знялі 4-га снежня, а 5-га ў мяне заканчваўся тэрмін, калі нельга здымаць грошы. Каб яны знялі 5-га, гэтыя працэнты ў мяне б засталіся. Але каб так нахабна: я не магу ўлезці ў свой уклад, а яны могуць. Хоць бы папярэдзілі! — абураецца Алена Ляшчынская.

Пра тое, што грошы знялі, яна даведалася выпадкова, калі 7-га снежня прыйшла пераафармляць уклад. Яна перакананая, што гэта было зроблена спецыяльна: банк ведаў пра ўмовы безадзыўнога ўкладу і павінен быў паведаміць аддзелу прымусовага выканання.

— Грошы ляжалі тры гады, усё жыццё збірала дзецям на вучобу... Так крыўдна! Каб не гэтая хвароба, я б усё заплаціла, але ж у мяне было двухбаковае запаленне лёгкіх, тады было не да штрафаў, — бядуе спадарыня Алена.

Што праўда, калі яна хварэла, ёй прыйшло паведамленне з аддзела прымусовага выканання, што па яе штрафе пачынаюць вытворчасць. Тады жанчына падумала, што, магчыма, да яе могуць прыйсці канфіскоўваць маёмасць, але ў яе нават думкі не было, што могуць крануць безадзыўны ўклад.

Спадарыня Алена адна выхавала дзвюх дачок, старэйшая ўжо вучыцца і працуе, малодшая таксама вось-вось пойдзе ў дарослае жыццё. Алена — індывідуальная прадпрымальніца, у яе на мясцовым рынку гандлёвы павільён, але продажаў, прызнаецца яна, цяпер зусім мала.

### Што кажуць у банку і аддзеле прымусовага выканання?

Па тлумачэнні Алена Ляшчынская звярнулася ў аддзяленне «Беларусбанка». Там спасылаліся на тое, што грошы з рахунка здымаюцца праз аўтаматызаваную інфармацыйную сістэму выканання грашовых абавязальніцтваў (АІС ВГА). 4 снежня ў банк паступіў электронны дакумент АІС ВГА з запытам аб наяўнасці на грашовых рахунках Алены Ляшчынскай сродкаў для спагнання аддзелам прымусовага выканання Лельчыцкага раёна. У той жа дзень банк спісаў грошы. На думку намесніка начальніка Гомельскага абласнога ўпраўлення «Беларусбанка», бясспрэчнае спісанне грашовых сродкаў на падставе плацежнай інструкцыі АІС ВГА не супярэчыць умовам заключанай паміж Аленай і банкам дамовы. Інфармаванне ўкладчыка аб такім спісанні дамовай таксама не прадугледжана. Адказнасць за непраўмернасць накіравання плацежных патрабаванняў банк ускладае на патрабавальніка, то-бок, аддзел прымусовага выканання.

У сваю чаргу, начальнік упраўлення прымусовага выканання галоўнага ўпраўлення юстыцыі Гомельскага аблвыканкама на запыт Алены Ляшчынскай адказаў, што 24 лістапада была распачата выканаўчая вытворчасць, адпаведную пастанову жанчына атрымала 28 лістапада і не абскардзіла яе ва ўстаноўленым парадку. Паколькі сума штрафу цалкам пагашаная не была, судовы выканаўца пастанавіў спісаць з рахункаў Алены 374 рублі (з улікам прымусовага збору). Таксама ў адказе напісана, што ў законе «Аб выканаўчай вытворчасці» вызначаны пералік грашовых сродкаў, на якія не можа быць звернута спагнанне, банкаўскія ўклады, у тым ліку безадзыўныя, у яго не ўваходзяць.

### Што кажа закон?

Сапраўды, у пераліку маёмасці, на якую не можа быць звернута прымусовае спагнанне штрафу, безадзыўнога ўкладу няма.

Тэрміны і парадак выканання пастановы аб накладанні адміністрацыйнага спагнання ў выглядзе штрафу прапісаныя ў арт. 15.3 ПВКаАП. Так, у частцы 4 гэтага артыкула сказана: «Пры нявыплаце штрафу фізічнай асобай у тэрмін, прадугледжаны часткай 1 гэтага артыкула, орган, які вядзе адміністрацыйны працэс, што вынес пастанову аб накладанні адміністрацыйнага спагнання, мае права накіраваць гэтую пастанову па вядомым месцы атрымання такой асобай заработнай платы і прыраўнаваных да яе даходаў для спагнання сумы штрафу».

У Інструкцыі па выканаўчай вытворчасці сказана: «Спагнанне грашовых сродкаў з рахункаў, укладаў (дэпазітаў) даўжніка ў банку і (або) нябанкаўскай крэдытна-фінансавай арганізацыі праводзіцца ў бясспрэчным парадку з залічэннем іх на рахунак органа прымусовага выканання. Пры гэтым спагнанне грашовых сродкаў адбываецца ў адпаведным памеры з улікам раней спагнанай сумы па выканаўчым дакуменце.

Спісанне грашовых сродкаў у бясспрэчным парадку дапускаецца з рахункаў даўжніка, прызначаных для ўліку грашовых сродкаў, якімі плацельшчык мае права распараджацца, у выпадку, калі такое спісанне не супярэчыць рэжыму рахунку.

Для спісання грашовых сродкаў судовы выканаўца накіроўвае ў аўтаматызаваную інфармацыйную сістэму выканання грашовых абавязацельстваў аплатнае патрабаванне ў парадку, устаноўленым банкаўскім заканадаўствам.

Для спісання грашовых сродкаў судовы выканаўца прад'яўляе аплатнае патрабаванне разам з выканаўчым дакументам у банк і (або) нябанкаўскую крэдытна-фінансавую арганізацыю ў парадку, устаноўленым банкаўскім заканадаўствам.

Пры наяўнасці ў даўжніка некалькіх бягучых (разліковых) банкаўскіх рахункаў судовы выканаўца мае права вынесці пастанову аб звароце спагнання на грашовыя сродкі даўжніка, якія знаходзяцца на рахунках у банку і (або) нябанкаўскай крэдытна-фінансавай арганізацыі, электронныя грошы ў электронных кашальках у аб'ёме, неабходным для выканання патрабаванняў, якія змяшчаюцца ў выканаўчым дакуменце, спагнанні (утрыманні) расходаў па выкананні выканаўчага дакумента і прымусовага збору. Пастанова аб звароце спагнання на грашовыя сродкі даўжніка, якія знаходзяцца на рахунках у банку і (або) нябанкаўскай крэдытна-фінансавай арганізацыі, электронныя грошы ў электронных кашальках з'яўляецца выканаўчым дакументам».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Сіла — у праўдзе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У Беларусі адбыліся дзве маштабныя падзеі за апошні тыдзень. Першай, безумоўна, стаў паспяхова праведзены Дзень салідарнасці з Беларуссю, які абвясціла на 7 снежня Святлана Ціханоўская.**


Міжнародны дзень салідарнасці з Беларуссю ў Варшаве

Гэты дзень прайшоў даволі маштабна. Асноўныя сусветныя гульцы засведчылі: яны не забываюцца пра Беларусь і пра сітуацыю ў нашай краіне. Еўрасаюз у сумеснай заяве высокага прадстаўніка ЕС Жазэпа Барэля і камісара па палітыцы суседства і пашырэнні Олівера Вархеі заклікаў беларускія ўлады вызваліць палітвязняў, журналістаў і ўсіх адвольна затрыманых асоб, а таксама пачаць «сапраўдны, усеабдымны нацыянальны дыялог».

«Еўрапейскі саюз працягвае цвёрда стаяць на баку народа Беларусі. Улады павінны прыслухацца да настойлівых заклікаў забяспечыць дэмакратычную будучыню і захаванне фундаментальных свабодаў і правоў чалавека. Неабходна неадкладна спыніць гвалт над мірнымі дэманстрантамі. Усе адвольна затрыманыя асобы, у тым ліку палітычныя зняволеныя і журналісты, павінны быць неадкладна і безумоўна вызваленыя. Усе вінаватыя ў парушэннях правоў чалавека павінны быць прыцягнутыя да адказнасці», — гаворыцца ў заяве.

Канцлерка ФРГ Ангела Меркель у сваім відэазвароце выказала салідарнасць з дэманстрантамі ў Беларусі, якія ўжо паўгода выходзяць на акцыі з патрабаваннем дэмакратыі і свабоды, і заклікала палітычнае кіраўніцтва ў Мінску неадкладна спыніць рэпрэсіі і вызваліць палітвязняў. Але аднымі словамі не абмежавалася — урад Германіі прыняў праграму падтрымкі грамадзянскай супольнасці Беларусі, на якую будзе выдзелена да 21 мільёна еўра.

ЗША падтрымалі народ Беларусі ў яго імкненні да дэмакратыі, свабоды і справядлівасці, гаворыцца ў заяве амбасады ЗША ў Мінску. Канада выдаткуе 2,25 мільёна канадскіх долараў на падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасці.

Літоўскі еўрадэпутат і былы прэм'ер-міністр Літвы Андрус Кубілюс плануе дамагчыся ад Еўрасаюза ўключыць у санкцыйны спіс больш за 250 беларускіх чыноўнікаў. А ў Чэхіі пададзеная першая заява на беларускіх сілавікоў у рамках універсальнай юрысдыкцыі. Нагадаем, што 4 такія заявы ўжо пададзеныя ў Літве, і па адной літоўская Генпракуратура ўжо завяла крымінальную справу.

Такім чынам, для беларускіх «сілавікоў» паступова зачыняецца «акно ў Еўропу».

Яшчэ адной маштабнай падзеяй можна назваць збор подпісаў пад петыцыяй супраць прызнання бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкай сімволікай. Пракуратура абвясціла, што з заявай аб прызнанні нацыянальнага сцяга экстрэмісцкім выступілі «каля ста грамадзян». За некалькі дзён петыцыю супраць гэтага падпісалі сто тысяч чалавек — а дакладней, яна сабрала 102 591 подпісаў.

Канешне, у сітуацыі прававога бязмежжа ўлады могуць проста праігнараваць подпісы. Але гэта і не важна. Важна тое, што бел-чырвона-белы сцяг ужо заняў месца ў сэрцах беларусаў. І адтуль яго ўжо не выб'еш ніякімі абвяшчэннямі «экстрэмісцкім» ці «незарэгістраванай сімволікай».

Карацей, улада прайграла яшчэ адну важную бітву на ідэалагічным фронце.

І навіны «з таго боку», які гэтаму самаму «таму боку» не надаюць ніякай упэўненасці. Паводле звестак Нацыянальнага банка Беларусі, золатавалютныя рэзервы краіны ў студзені 2021-га ўсохлі яшчэ на $265 мільёнаў — і абнавілі мінімум за апошнія два гады. ЗВР упалі да $7,2 мільярда. Але гэта яшчэ не мяжа. На пачатак 2022 года Нацбанкам запланавана падзенне ЗВР да $6 мільярдаў.

Нагадаем, самага нізкага значэння ў 2020 годзе ЗВР дасягалі 1 кастрычніка, калі апусціліся да $7321,4 мільёна.

Паводле традыцыйных ацэнак эканамістаў, аб'ём ЗВР павінен складаць 3–5 месячных аб'ёмаў імпарту. Белстат паведаміў, што ў снежні 2020-га аб'ём імпарту быў $3533 мільёна, гэта складае 2 сумы ЗВР і не дацягвае да ніжняй мяжы дастатковасці. Яшчэ адзін крытэр ацэнкі ЗВР: іх аб'ём не павінен перавышаць знешні дзярждоўг краіны. Паводле даных Мінфіна, знешні дзяржаўны доўг Беларусі на 1 студзеня 2021 дасягнуў $18,6 мільярда, што перавышае аб'ём ЗВР у 2,6 разы.

Яшчэ адну цікавую навіну прапануе тэлеграм-канал «Эканоміка». Прадпрыемства «АГАТ — электрамеханічны завод» у канцы 2020 года трапіла пад санкцыі ЕС. Цяпер завод распрадае маёмасць. На продаж выстаўлены «аб'ект нерухомасці» (адным лотам) коштам у 25 мільёнаў 110 тысяч рублёў. Але цікава не толькі гэта, але і паведамленне, што дадзеная сума (без уліку НДС) складае 34,23% балансавага кошту актываў прадпрыемства. То-бок, усё прадпрыемства «Агат» каштуе 75 мільёнаў беларускіх рублёў, альбо каля 37 мільёнаў долараў.

Пры гэтым «Агат» спецыялізуецца на прадукцыі ВПК і з'яўляецца структурай Дзяржкамваенпраму. Гэта ж да чаго трэба было давесці нават стратэгічнае прадпрыемства, каб яно прадавала свае актывы?

Пры гэтым улады ў чарговы раз заняліся цікавай дзейнасцю, якую нельга назваць ніяк, акрамя як «асваеннем бюджэтных грошай» без якога-кольвек станоўчага выніку. У адпаведнасці з распараджэннем прэм'ер-міністра, створана міжведамасная рабочая група для распрацоўкі дарожнай карты па стварэнні і прасоўванні «брэнда Рэспублікі Беларусь». Прычым, завяршыць сваю працу яна павінна да траўня 2021 года. І, адпаведна, усе гэтыя часы людзі будуць атрымліваць заробкі і прэміі.

«Брэнд Рэспублікі Беларусь» на дадзены момант вядомы: гэта міліцэйская дубінка, аўтазак ды амапавец у балаклаве. Колькі не распрацоўвай дарожных мапаў, ён не зменіцца, пакуль не зменіцца сітуацыя ў краіне.

Праўда, гэта тычыцца толькі афіцыйнай Беларусі. Эксперт па маркетынгавых камунікацыях і сістэмным развіцці бізнесу Аляксандр Колб лічыць, што сёння ёсць два абсалютна розныя брэнды: самі беларусы і асобна Рэспубліка Беларусь. «Гэта два розных паняцці. Я думаю, што падзеі з сярэдзіны 2020 — пачатку 2021 года паказалі ўсяму свету, што ў Беларусі ёсць выдатныя людзі, таленавітыя, разумныя, бясстрашныя людзі. І ёсць іншы бок медаля, як інь і янь, белае і чорнае», — адзначае эксперт.

Брэнд «самі беларусы» не патрабуе аніякіх «дарожных мапаў» па яго прасоўванні. А брэнд «Рэспубліка Беларусь» прасоўванню не паддаецца. Увогуле.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Павел Спірын



**Блогеру Паўлу Спірыну прысудзілі 4,5 года калоніі за крытыку ўлады.**

Яму прад'явілі абвінавачанне за два відэаблогі на ютубе. Гэта фільм «Грань» пра наркагандаль у Беларусі, які занеслі ў спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў. А таксама блог «Жудасная таямніца генпракурора Беларусі. Карт-бланш на садызм» пра падзеі 9 жніўня і гвалт амапаўцаў супраць мірных дэманстрантаў.

Спірына абвінавацілі паводле часткі 1 артыкула 130 Крымінальнага кодэксу за «наўмысныя дзеянні, накіраваныя на распальванне сацыяльнай варожасці паводле прыкметы сацыяльнай прыналежнасці». Сацыяльнай групай, па версіі абвінавачвання, з'яўляецца «іншая» група асоб, аб'яднаных па прыкмеце прафесійнай прыналежнасці, а менавіта работнікі пракуратуры, суддзі, дэпутаты, вышэйшыя службовыя асобы, супрацоўнікі міліцыі, супрацоўнікі АМАП і нават міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

У апошнім слове 1 лютага Павел Спірын сказаў, што ягоныя відэа «гэта проста жорсткая, але крытыка».

«Напрыклад, газета адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі 300-тысячным накладам распаўсюджвае ў разы больш жорсткую крытыку, чым я, заклікаючы адбіраць у пратэстоўцаў з сям'яў дзяцей, параўноўваючы іх з фашыстамі і асобамі, якія ў вайну 1941-га года адбіралі ў маналетніх дзяцей кроў, — сказаў блогер. — І ніхто гэтых журналістаў і рэдактараў у распальванні варожасці не абвінавачвае, гэта лічыцца проста жорсткай крытыкай».

Праваабаронцы заявілі, што прысуд Паўлу Спірыну з'яўляецца недапушчальным абмежаваннем свабоды выказвання меркавання, стварае новыя небяспечныя формы пераследу грамадзян за публічную крытыку дзейнасці дзяржаўных органаў і прадстаўнікоў улады. На іх думку, прадстаўнікі дзяржаўных органаў, і органаў міліцыі ў прыватнасці, не з'яўляюцца асобнай сацыяльнай групай, а крымінальная адказнасць за распальванне варожасці ў першую чаргу павінна прадухіляць распальванне варожасці ў дачыненні да ўразлівых груп грамадства, а ніяк не прадстаўнікоў улады. На гэтай падставе Спірына прызналі палітвязнем.

## Мікалай Аўтуховіч



**Тэлеканал АНТ паказаў раней анансаванае «расследаванне» па справе Мікалая Аўтуховіча. Атрымалася сумна.**

У фільме паведамілі, што Аўтуховіч прасіў зброю ў экс-камандзіра ўкраінскага добраахвотніцкага батальёна «Данбас» Сямёна Сяменчанкі, які нібыта меў зносіны з беларусам з іракскага тэлефоннага нумара — ён фігуруе ў расследаванні канала пад нікам Ivaplast kiev. Нібыта, Аўтуховіч нелегальна пераходзіў беларуска-украінскую мяжу, «каб забраць зброю».

«Тоны зброі», пра якія заяўляў Лукашэнка, гледачам так і не прадэманстравалі. Уся першая частка фільма паказвае на Украіну як на тэрыторыю, дзе фарміраваліся і ўзбройваліся «групы баевікоў».

Увогуле, фільм пра Аўтуховіча нагадвае рымейк прапагандысцкай карціны «Белы Легіён чорных душаў», прысвечаны так званай «справе патрыётаў» 2017 года. Аднак «справа патрыётаў» скончылася пшыкам — яна нават не дайшла да суда.

## Арцём Саўчук



**30-гадовы мужчына «дапамог штурхануць каляскі на стаянцы гандлёвага цэнтру» — і атрымаў за гэта чатыры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Арцёма Саўчука прызналі вінаватым «ва ўдзеле ў масавых беспарадках». Справу разглядалі ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска, суддзя — Юлія Блізнюк.

Апошнія дзесяць гадоў Арцём Саўчук жыў у Польшчы: скончыў Кракаўскі політэхнічны ўніверсітэт і працаваў праграмістам па спецыяльнасці. Летам 2020-га ён вырашыў падчас свайго адпачынку прыехаць на радзіму, каб пабачыць родных і пабываць на вяселлі аднакласніка.

Па версіі следства, 10 жніўня Саўчук «груба парушаў грамадскі парадак, блакаваў дарогу транспарту, удзельнічаў у сутыкненні з супрацоўнікамі міліцыі, кідаў петарды і балты». Палітвязень заявіў, што ў той вечар ён не здзясняў «проціпраўных дзеянняў», а назіраў за мірнай дэманстрацыяй. А дапамог штурхнуць каляску ўгару — на тратуары паміж Лядовым палацам і прыпынкам грамадскага транспарту. Ён не лічыць гэта правапарушэннем. Тым не менш, суддзя Блізнюк прызнала яго вінаватым.

# Дзяржаўны Урабарос: «справа Румаса» як выклік для «вертыкалі»

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Інфармацыя пра арышт экс-прэм'ера Беларусі Сяргея Румаса не пацвердзілася. Ён з'ехаў з краіны да сыноў, адзін з якіх жыве ў Італіі, а другі — у Вялікабрытаніі. Праўда, не факт, што на экс-чыноўніка не надзенуць кайданкі па вяртанні — калі ён, зразумела, вернецца.**

Вакол «справы Румаса» адразу ж паўстала некалькі трактовак. Версій магчымай апалы экс-прэм'ера досыць шмат. Аднак сам факт наяўнасці гэтай інфармацыі — сур'ёзная падстава задумацца перш за ўсё для тых, каго ў Беларусі прынята называць «элітамі».




## Палітыка?

Першае, што ўспомнілі каментатары ў сувязі з чуткамі пра арышт Румаса, — гэта фота, якое выклала ў сацсетцы яго жонка Жана. Пара Румасаў зрабіла сэлфі наназіральнай пляцоўцы будынка Банка Развіцця (менавіта гэтым банкам некалі кіраваў Румас). З гэтай пляцоўкі выдатна бачная стэла, і фота было зроблена ў адзін з дзён, калі там праходзіў маштабны марш, — зразумела, не «ябацькаў». Пазней гэтая фатаграфія была выдаленая, але ўсё роўна заўважаная. У верасні Лукашэнка, кажучы пра чыноўнікаў, якія падтрымалі пратэст, адзначыў, што былі і такія, каго «своечасова разглядзелі» і «адправілі каго на спачынак, каму проста прапанавалі займацца бізнесам».

Гэта быў відавочны намёк у бок Румаса, бо менавіта яго адстаўка была прынятая са словамі: «Вялікіх прэтэнзій у мяне да яго няма, але чалавек хоча займацца бізнесам».

Прэтэнзій не было ў чэрвені, калі Лукашэнка замяніў Румаса на прадстаўніка «сілавікоў» Галоўчанку — цяперашні прэм'ер прыйшоў з ВПК. А вось пасля жнівеньскіх падзей яны з'явіліся.

Яшчэ да жніўня расійскі эксперт, намдэкана факультэта сусветнай эканомікі і сусветнай палітыкі НДУ ВШЭ Андрэй Суздальцаў (варта адзначыць, што сам Суздальцаў у сакавіку 2006 года быў пазбаўлены віду на жыхарства ў Беларусі і дэпартаваны ў Расію) заявіў, што Румас «у свабодным палёце» можа далучыцца да апазіцыі. Фота з даху Банка Развіцця гэта як бы пацвярджала.

Але такіх крокаў ад Румаса не дачакаліся. Зрэшты, усё яшчэ можа змяніцца, — у тым выпадку, калі шлях на радзіму Румасу будзе закрыты.

## Моцна патрэбныя грошы?

На самай справе, усё можа быць больш проста і банальна. Рэжыму вельмі патрэбныя грошы. Прычым, пажадана, наяўнымі.

Эксперты, асабліва ў галіне эканомікі, неаднаразова казалі: паліцэйскую дзяржаву проста пабудаваць, але вельмі складана ўтрымліваць. Сілавыя структуры могуць вельмі эфектыўна выкарыстоўваць рэсурсы, але не могуць іх ствараць.

Не прайшло і паўгода з пачатку беларускіх пратэстаў, а рэжым ужо падняў падаткі асабліва «грашовым» галінам эканомікі — Парку высокіх тэхналогій і аператарам мабільнай сувязі. Прычым, для апошніх падатак на прыбытак залімітавы — ажно 30%. Спецыялісты папярэджвалі, што такія падаткі вядуць толькі да стварэння розных інструментаў сыходу ад іх і да «шэрых схемаў» вядзення бізнесу. І замест павелічэння збору падаткаў мы ўбачым памяншэнне сабраных сродкаў. Мабыць, так і адбываецца.

Напачатку тыдня нават з'явілася навіна, што дзе-нідзе (а канкрэтна — у Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобласці) частку зарплаты на двух прадпрыемствах выдалі рыбнымі кансервамі. І гэта ўжо першы званочак, што грошай не хапае катастрафічна. Адна справа — чытаць, што ў чарговы раз знізіліся золатавалютныя рэзервы ў Нацбанку, а іншае — атрымаць замест грошай скрыню кількі ў тамаце.

Як паведамлялі СМІ, па гіпатэтычнай «справе Румаса» затрыманыя некаторыя топ-менеджары «Белаграпрамбанка», якім Румас кіраваў з 2005 па 2010 год. Некаторыя тэлеграм-каналы паведамілі, што допыты супрацоўнікаў банка былі звязаныя менавіта з дзейнасцю Румаса — у прыватнасці, з выдачай крэдытаў Тураўскаму малочнаму камбінату.

Паралельна са «справай Румаса» стала вядома пра затрыманне дырэктара сталічнага ГУМа Аляксандра Крапака — нібыта за хабар. А яшчэ раней Следчы камітэт паведаміў, што расследуе карупцыйную справу ў дачыненні да службовых асобаў адразу некалькіх буйных прадпрыемстваў — Мінскага завода колавых цягачоў, БелАЗа, Мінскага трактарнага завода і завода цяжкіх штамповак.

«Карупцыйныя» артыкулы беларускага Крымінальнага кодэкса маюць адну характэрную асаблівасць: па іх заўсёды можна «дамовіцца», выплаціць «шкоду дзяржаве» ў трохразовым памеры, і — вольны. Пра гэта неаднаразова заяўляў і сам Лукашэнка. Верагодна, менавіта такім немудрагелістым спосабам улады вырашылі «пастрыгчы» бізнесменаў і топ-менеджараў банкаў, — каб неяк падцыраваць велізарныя дзіркі ў бюджэце.

Колькі можна «састрыгчы з топаў» — іншае пытанне. Відавочна, не мільярды долараў. Але ў сітуацыі, якая склалася, нават сотня тысяч долараў будзе дарэчы. Як мінімум, гэтага хопіць, каб выплаціць заробкі ў рыбгасе «Локтышы», дзе частку зарплаты выдаюць кансервамі аж з траўня 2020 года.

## Перадзел рынку?

Яшчэ адно тлумачэнне «справы Румаса» высунуў у сваім тэлеграм-канале аналітык Пётр Кузняцоў. Ён дапускае, што «гучныя справы» — гэта не што іншае, як «перадзел сфераў уплыву» на фоне нестабільнасці ўлады. «Сітуацыя, у якой сілавікі атрымліваюць празмерны ўплыў, а вярхоўны кіраўнік, наадварот, усё больш патрапляе ад іх у залежнасць, — ідэальная для таго, каб альбо яны самі, альбо хтосьці, але іх рукамі, пачаў унутраную вайну за перадзел уплыву ў эканамічнай і бізнес-сферах. Вось Румас не так сфоткаўся: "шапнуць", узгадніць, накацяць — прасцей простага», — піша Кузняцоў.

Варта адзначыць, што «Белаграпрамбанк», праз які праходзяць найвелізарныя грошы для АПК, а таксама МЗКЦ і БелАЗ (пры ўсёй стагнацыі апошняга, які загінаецца не з-за няўмення вырабляць прадукцыю, а з-за няўмення яе прадаваць) з'яўляюцца досыць ладнымі кавалкамі для такога перадзелу. Альбо для «расчысткі тэрыторыі» пад прыход новага ўласніка.

Амаль аднachасова з узнікненнем «карупцыйных арыштаў» выканаўчы дырэктар Creative Politics Hub Мікалай Халезін падзяліўся ў сваім тэлеграм-канале інфармацыяй, што рэжым пачаў падрыхтоўку да вялікага распродажу флагманскіх актываў у эканоміцы. Па яго словах, пачаліся перамовы па трох структурах, якія для Беларусі з'яўляюцца бюджэтаўтваральнымі: БМЗ, Беларуськалій і «Гродна-Азот».

А там, дзе могуць пайсці на продаж «бюджэтаўтваральныя», могуць «змяніць уласніка» і іншыя, хай не такія буйныя. Той жа МЗКЦ забяспечвае цягачамі «ядзерны шчыт» Расіі. БелАЗ — таксама можа быць «залатым дном», калі забяспечыць яму адпаведны менеджмент. Так што версія Кузняцова мае права на існаванне.

Пры гэтым вялікае пытанне, як паставяцца да «перадзелу рынку» тыя, хто гэтым бізнесам распараджаюцца цяпер. Наўрад ці яны здадуць пазіцыі без бою.

## Гісторыя нічому не вучыць?

Зрэшты, якія б ні былі рэальныя або ўяўныя перадумовы для «справы Румаса», усё атрымліваецца так, як папярэджвалі гісторыкі. Рэпрэсіўная машына не можа спыніцца ў сваім развіцці, і разочак пакаштаваўшы ўсёдазволенасці і крыві, яна будзе патрабаваць усё новых і новых ахвяр.

Урабарос — гэта міфічны змей (або цмок) скручаны ў кальцо, які паядае свой хвост. Яму прыпісваюць розныя значэнні, аднак у нашай сітуацыі цяперашняя беларуская ўлада пачынае нагадваць менавіта гэтага змея. «Паліцэйская дзяржава» не можа без рэпрэсій, і ўлада пачынае есці сама сябе — галава есць хвост.

Пра тое і казалі абазнаныя людзі: тыя, хто падтрымліваў пераварот і «паліцэйскую дзяржаву», урэшце самі аказваюцца ахвярамі гэтай сілавой дзяржавы. Так было ў гітлераўскай Германіі, калі Гітлер расправіўся са сваімі ж паплечнікамі ў «Ноч доўгіх нажоў». Ці ў СССР, калі Ягоду расстралялі Яжоў, прымусіўшы перад гэтым прызнацца ў «падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту», а потым Яжова расстраляў Берыя — прычым, паводле таго ж самага абвінавачання.

Вядома, цяпер не сталінскія часы: чыноўнікам ёсць што губляць і ёсць куды бегчы — прыклад Румаса таму наглядае пацвярджэнне. Але менавіта логіку і паводзіны сталінізму імкнецца навязаць грамадству Лукашэнка. Пры гэтым ён не можа даць «перніка» хаця б у выглядзе надзеі на «светлую будучыню» і «камунізм». У яго засталіся, фактычна, толькі дзве прылады для захавання кіравальнасці вертыкалі. Першая — гэта страх. Страх, што за табой «прыйдуць», як за Румасам, напрыклад. І другі — спроба «павязаць адказнасцю», тым жа ўдзелам чыноўнікаў ва Усебеларускім народным сходзе. Маўляў, і вы адказныя за тое, што нарабілі сілавікі ў жніўні 2020-га.

Наколькі гэта спрацуе ў новых умовах? Асабліва калі «сілавікі» прыходзяць да чыноўнікаў, незалежна ад таго, баяцца яны ці не? І калі кожны з «вертыкальшчыкаў» можа стаць «наглядным дапаможнікам» для сваіх калег? Гэтак жа, як і кожнага могуць запляміць падтрымкай самаабвешчанага кіраўніка краіны. Пры гэтым прапанаваць вертыкалі раўнацэнны «пернік» Лукашэнка ўжо не можа. Больш за тое — верагодней, мае намер забраць апошняе.

Усе тры сцэнары сімптаматычнай «справы Румаса» не абяцаюць уладнай вертыкалі нічога добрага. Пры любым раскладзе чыноўнікі застаюцца ў пройгрышы. Той жа Пётр Кузняцоў мяркуе, што гэта якраз і стане асновай для расколу элітаў і распаду ўладнай вертыкалі. Бо захаваць калі не сваё становішча, то хаця б свабоду яна можа толькі адным чынам — адмежаваўшыся ад Лукашэнкі.

А для гэтага трэба ўсяго толькі перамагчы страх, як тое ў масе сваёй ужо зрабіў народ. Толькі ў такім выпадку цяперашнія чыноўнікі змогуць неяк выграбці з гэтай няпростай сітуацыі. Прычым, з найменшымі стратамі.

# Колькі мы заплацім за Усебеларускі сход?

**Удзельнікам Усебеларускага народнага сходу абяцаюць бяспечныя і камфортныя ўмовы працы і адпачынку. FINANCE.TUT.BY пацікавіўся, дзе іх паселяць, дзе будуць карміць, а таксама якую забаўляльную праграму і падарункі ім падрыхтавалі. Іншымі словамі, колькі будуць каштаваць бюджэту краіны — а значыць, кожнаму з нас — гульні ў наўпростую «дэмакрытыю».**

2 лютага Лукашэнка заявіў, што «бытавыя і іншыя рэчы вельмі важныя для тых, хто будзе працаваць на з'ездзе». «Тут людзі, якія прыехалі з рэгіёнаў, павінны адчуваць сябе як дома. І яны дома. Не "дома", а дома. Яны прыехалі да сябе дадому — у сталіцу нашай Радзімы», — сказаў Лукашэнка на нарадзе па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення VI Усебеларускага народнага сходу.

Журналісты FINANCE.TUT.BY распрабавалі даведацца, якія бытавыя ўмовы маюць намер забяспечыць дэлегатам.

## Дзе збіраюцца пасяліць дэлегатаў?

УНС праходзіць 11–12 лютага. На сход маглі адправіць да 310 чалавек з кожнай вобласці, а з Мінска — да 370. Удзельнікаў з рэгіёнаў плануюць рассяліць у гасцініцах «Беларусь», «Юбілейная», «Мінск», «Вікторыя&СПА», а таксама, верагодна, у «Планеце». У апошнім гатэлі ёсць вольныя месцы на 11 і 12 лютага, а ў астатніх — браніраванне ў дні, калі будзе праходзіць УНС, недаступна.

Да прыкладу, у гасцініцы «Мінск» — 252 нумары розных катэгорый камфорту. Кошты — ад 111 рублёў з улікам зніжкі. Ёсць нумар і даражэй — 800 рублёў. На 10 і 11 лютага тут няма свабодных месцаў.

У гасцініцы «Юбілейная» цэны стартуюць ад 50 рублёў за нумар. На 10 і 11 лютага тут таксама няма варыянтаў для засялення. У «Беларусі» нельга аформіць засяленне з 10 па 12 лютага.

Пражыванне для дэлегатаў у гасцініцах, паводле інфармацыі журналістаў TUT.BY, бясплатнае.

Некаторых удзельнікаў УНС, паводле інфармацыі TUT.BY, плануюць засяліць у інтэрнат Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў у аграгарадку Прылукі ў Мінскім раёне.

Замежных гасцей маюць намер размясціць у «Прэзідэнт-Гатэлі». Тут недаступныя для браніравання 4 дні — з 9 да 12 лютага. Нагадаем, раней стала вядома, што на УНС павінен прыехаць лідар КПРФ Генадзь Зюганаў.

Ці будуць кампенсаваць выдаткі гасцініцам за прыём удзельнікаў УНС — пытанне адкрытае. У падобных выпадках, калі паслугі патрэбныя пад дзяржмерапрыемства, аплата можа быць і не прадугледжаная. Тым больш, што 4 гатэлі ўваходзяць у гасцінічны холдынг Кіраўніцтва справамі прэзідэнта — «Юбілейная», «Планета», «Мінск», «Прэзідэнт-Гатэль».

## Дзе будуць карміць?

Снедаць удзельнікі УНС, як плануецца, будуць у гасцініцах (акрамя мінчукоў, зразумела). Дзе будуць снедаць тыя, каго могуць размясціць у інтэрнаце каледжа мастацтваў у Прылуках, пакуль не вядома. У самым інтэрнаце распавялі, што будынак новы (увялі ў эксплуатацыю ў снежні 2019 года), але з харчаваннем ёсць пытанні: тут няма, да прыкладу, крамы або буфета. Затое на паверхах устаноўлены мікрахвалёўкі і халадзільнікі.

Падчас сходу ў Палацы Рэспублікі запланавана як мінімум адна кава-паўза ў дзень, на якой можна будзе выпіць каву-гарбату з бутэрбродамі, айчыннымі печывам і цукеркамі.

Каля 16.00–17.00 гадзін, як плануецца, будзе «позні абед», што пераходзіць у вячэру. Паводле інфармацыі журналістаў FINANCE.TUT.BY, плануюць падаваць кашу і нешта з мяснога. Адзін з верагодных варыянтаў — грэчка з мяснымі каўбаскамі. Алкаголю на сталах, як паведамляюць крыніцы FINANCE.TUT.BY, не будзе.

Для харчавання дэлегатаў могуць задзейнічаць не толькі кафэ, якое размешчана ўнутры Палаца Рэспублікі, але і залу прыёмаў і фае малой залы.

У дапамогу работнікам Палаца маюць намер накіраваць персанал з некаторых дзяржарганізацый грамадскага харчавання.

«Для абслугоўвання такой вялікай колькасці людзей нашага штатнага персаналу не хопіць, будуць прыцягваць дадатковыя работнікі, — удакладнілі ў Палацы Рэспублікі. — Мы да 10-га лютага ўжо будзем цалкам гатовыя да правядзення гэтага мерапрыемства. Чакаем гасцей у нас 11 і 12 лютага».

Паводле інфармацыі FINANCE.TUT.BY, для забеспячэння харчавання дэлегатаў у Палацы можа спатрэбіцца дадаткова дапамога да 100 работнікаў. Гэта, сярод іншага, кухары, буфетчыкі, мыйшчыкі посуду, грузчыкі.

Паведамляюць, што «камандзіраваным» работнікам трэба будзе здаць ПЦР-тэст, ім абяцаюць годную аплату. Пры гэтым кандыдатуры спецыялістаў спачатку павінны ўхваліць, перш чым яны здадуць тэст і пройдуць інструктаж па працы на сходзе.

## А забаўляльная праграма прадугледжаная?

Так. Пад акампанемент аркестра МУС РБ на сцэне Палаца спорту 11 лютага выступяць Аляксандр Саладуха, Ірына Дарафеева, Юлія Быкава («Aura»), Уладзімір Громаў, Вікторыя Алешка, Жанэт, Алёна Ланская, Руслан Аляхно, арт-група «Беларусы», сёстры Груздзевы ды многія іншыя, паведамляе «Наша Ніва».

Будуць ансамблі «Песняры», «Бяседа» і «Ровеснік», хор «Пеўнікі» (Брэст), «Ві-за-ві» (Орша), «Белыя Росы» (Гродна), хор Цітовіча і хор Свята-Духава сабора.

Чакаюцца выступы балета «Radiodance» і нават цыркавой трупы.



Ілюстрацыйны здымак Вольгі Шукайла, www.tut.by

## Якія падарункі падрыхтавалі?

У тэлеграм-канале УНС напярэдадні з'явіліся фатаграфіі падарункаў, якія маюць намер уручыць дэлегатам. «Усё сціпла, без лішняй паказухі. Сціпласць, яна, як вядома, упрыгожвае», — напісалі ў тэлеграм-канале.

Сярод падарункаў — партфель з выявай дзяржаўнага сцяга, арганайзер, сувенірны нататнік, дзве металічныя ручкі ў скрыначцы з мацаваннем, камплект медыцынскіх масак і антысептык, а таксама брашура з асноўнымі палажэннямі праекта Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на цяперашнюю пяцігодку.

## А што з транспартам?

Дакладнай інфармацыі аб тым, на чым будуць дастаўляць удзельнікаў УНС да Мінска, няма. Верагодней за ўсё, гэта будуць аўтобусы. На сайце дзяржзакупак з'явілася некалькі заявак на пасажырскія перавозкі з абласных цэнтраў у Мінск і перамяшчэнне па сталіцы ў тыя дні, калі будзе праходзіць УНС.

Гомельскі абласны цэнтр па забеспячэнні дзейнасці бюджэтных арганізацый у сферы культуры размясціў заяўку на пасажырскія перавозкі з Гомеля ў Мінск і назад, таксама прадугледжана перамяшчэнне па сталіцы з 9 па 12 лютага. Патрабуецца камфартабельны аўтобус не старэй за 2013 год выпуску на 57 месцаў. Выезд з Гомеля запланаваны ў 7.00 9 лютага, а выезд назад — у 10.00 12 лютага.

Арыенціровачны кошт — 2200 рублёў. Крыніца фінансавання — бюджэтныя сродкі. Закупку размясцілі для патрэб Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама.

Гродзенскі абласны цэнтр для забеспячэння дзейнасці арганізацый сферы культуры размясціў заяўку на дзяржзакупку па перавозцы 43 пасажыраў па маршруце Гродна—Мінск—Гродна з 9 па 11 лютага, а таксама на праезд па сталіцы ў гэтыя дні. Арыенціровачны сумарны прабег аўтатранспарту — 1000 кіламетраў, арыенціровачны кошт заяўкі — 3000 рублёў. У гэтую суму таксама ўваходзіць пражыванне і харчаванне кіроўцы. З патрабаванняў да аўтобуса — наяўнасць багажнага аддзялення са спецыяльнымі рэйкамі і паліцамі для перавозкі канцэртных касцюмаў (больш за 150 адзінак), канцэртнага абутку артыстаў і рэквізіту для канцэртнага выступлення. Крыніца фінансавання — бюджэтныя сродкі.

Не бярэмся сцвярджаць, што гэтыя заяўкі звязаныя непасрэдна з дастаўкай на УНС — тых жа ўдзельнікаў або артыстаў на канцэрт, але яны дазваляюць зразумець, у якую суму можа абысціся адпраўка аднаго аўтобуса ў Мінск.

Калі ўдзельнікаў УНС будуць дастаўляць аўтобусамі, то, хутчэй за ўсё, транспарт будзе знаходзіцца ўвесь гэты час у сталіцы, каб на ім маглі перамяшчацца па горадзе. Да прыкладу, ад той жа гасцініцы «Беларусь» дабрацца пешшу да Палаца Рэспублікі праблематычна.

З улікам здагадкі, што ўдзельнікаў УНС прывязуць аўтобусамі, для падліку арыенціровачнага кошту дастаўкі возьмем за аснову гомельскую заяўку на аўтобус на 57 месцаў за 2200 рублёў. З адной вобласці на УНС можа прыехаць да 310 чалавек, для гэтага можа спатрэбіцца 5–6 аўтобусаў, гэта значыць прыблізна ад 11 да 13,2 тысячы рублёў. Памнажаем на 6 абласцей — атрымліваецца сума ад 66 да 79,2 тысячы рублёў. Калі ж заклапаціцца дадатковымі мерамі бяспекі з-за неспрыяльнай эпідсітуацыі і арганізаваць рассадку дэлегатаў у аўтобусах на бяспечнай адлегласці, то колькасць неабходнага транспарту можа павялічыцца.

Трэба ўлічваць, што аўтобусы могуць адпраўляцца не толькі з абласнога цэнтра, але і з іншых гарадоў, у такім выпадку кошт можа адрозніваца (а калі ўсе з абласнога цэнтра, то трэба ўлічыць яшчэ дастаўку ўдзельнікаў з вобласці). Пры гэтым дастаўка з Мінскай вобласці можа абысціся танней, чым з іншых абласцей (тут залежыць не толькі ад адлегласці, але і ад патрабаванняў па дастаўцы і камфортнасці аўтобуса). Таму паўторымся: нашы падлікі па транспарце арыенціровачныя.

## Хто наогул займаецца фінансавымі пытаннямі УНС?

Фінансавыя і матэрыяльна-тэхнічныя пытанні вырашаюць Саўмін і Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Але ў рэгіёнах стварылі аргкамітэты па падрыхтоўцы да УНС, якія займаюцца ў тым ліку фінансавымі пытаннямі падрыхтоўкі да сходу на мясцовым узроўні.

**P.S.:** *На момант, калі нумар здаваўся ў друк, больш дакладнай інфармацыі пра выдаткі на забеспячэнне патрэбаў Усебеларускага народнага сходу не было. Гэтак жа, як і пакуль яшчэ не стала вядома, з якіх крыніцаў яно фінансуецца. Аднак мы можам меркаваць, што значная частка грошай на правядзенне гэтага мерапрыемства пайшла з дзяржбюджэту, а значыць з нашых з вамі кішэняў.*

# Таццяна і Кастусь Севярынцы: «Мы

Ганна ЕРМАКОВІЧ

**Мы прыехалі ў госці да Таццяны і Кастуся Севярынцаў у Віцебск, каб паразмаўляць пра тое, адкуль яны бяруць сілы, што думаюць пра будучыню краіны і як выхоўваюць сваіх унукаў. Таццяна сустрэла нас смачным абедам і гарачай кавай, а Кастусь — вясёлымі гісторыямі пра сваю журналісцкую дзейнасць.**



**Таццяна:** Цяпер нам цяжкавата, бо калі бачыш, як шалее ўлада, і не ведаеш, да якой ступені яна страціць розум, ды яшчэ пандэмія, то іншы раз стае пытанне: ці ўбачым сына? Я па жыцці звыкла звязвацца з Паўлам кожны дзень. У нас вельмі моцная эмацыйная сувязь. Мне дастаткова голас пачуць — я ўжо ведаю, у якім ён настроі і стане. У першым лісце, які Павел напісаў ужо з Валадаркі, ён выбачаўся, што не паразмаўляў са мною, калі я тэлефанавала напярэдадні затрымання. Ён вельмі спяшаўся туды, на Камароўку. Але мы аптымісты, і мы дачакаемся сына.

**Кастусь:** А я супакойваю сябе такім вось выслоўем: сёння яны нас, а заўтра мы іх.

***— Што надае вам моцы?***

**Кастусь:** Я ў гэтых варунках раблю тое, што ўмею рабіць. Напрыклад, магу зарыфмаваць некалькі радкоў, кожную нядзелю выстаўляю ў сацсетках чарговы вершык, прысвечаны бел-чырвона-беламу сцягу. І Паўлу я дасылаю гэтыя вершы, ён чытае іх сукамернікам.

**Таццяна:** Я кожны дзень раблю нейкі маленькі ўнёсак у агульную справу. Часцяком знаходжу сабе прыгоды, тады пачынаюцца суды...

**Кастусь:** Тады пачынаецца: «Прынясі мне тапкі, там трывожны чамаданчык мой стаіць, і не забудзь ваду». А я ўсё гэта забываю, а потым бегаю, купляю. Заходжу ў РАУС, там гэтыя камеры... Я крычу: «Мамка, ты тут?», а мне з адной з камер: «Тут, тут!» Ну, пасмяёмся — і ўсё. Вядома, у такім узросце заперці чалавека ў камеру, у адзіночку... Ну, яны спецыяльна гэта робяць.

***— Павел даволі рана вызначыў свае прынцыпы, і заўсёды рашуча адстойваў іх. Вы яго заўсёды падтрымлівалі?***

**Таццяна:** Я заўсёды ведала, што ён не робіць нічога дрэннага, што ён адстойвае справядлівасць. А як інакш?

**Кастусь:** Па-першае, гэта наш сын, гэта мы выхавалі яго. Чалавек з сям'і выйшаў. Зараз узгадваю, што сам ён крыху сумняваўся. Калі Паўла пасадзілі першы раз на Валадарку, ён яшчэ студэнтам быў, перажываў, як бацькі паставяцца. Не магу сказаць, што мы паставіліся спакойна, бо гэта было жудасна — на Валадарку, да бандытаў, да забойцаў! Таму складана было. Спачатку здавалася, што хутка ўсё пройдзе, наладзіцца.

***— Павел прыняў Хрыста падчас свайго першага арышту ў 1998 годзе. Ці можна сказаць, што ён выйшаў тады з Валадаркі іншым чалавекам?***

**Таццяна:** Ён вярнуўся вернікам. Для мяне гэта было настолькі нечакана! Сям'я ў нас была звычайная, свецкая. Мой хлопчык, рафінаваны такі інтэлігент, які заўсёды быў любоўю сясцёр, з якога бабулі пыл здзьмувалі, аказаўся ў невыносных умовах. Было страшэнна, што маё дзіця праз такое праходзіць. Цяпер я ўжо сама ведаю, што гэта такое. Тым не менш, не магу дачытаць яго кнігу «Каменнае сэрца». Там ён апісвае жахі зняволення. Калі дачытаю, пэўна адразу памру.

**Кастусь:** Ён вярнуўся не іншым чалавекам. Павел проста ўпэўніўся ў тым, што яго прынцыпы слушныя, што ён змагаецца за дабро са злом, што ён на правільным шляху.

***— Вы калі-небудзь раілі Паўлу з'ехаць з краіны?***

**Кастусь:** Адразу, адназначна і, думаю, у два галасы: не!

У адным з маіх вершаў ёсць такія радкі:

*«Мне не трэба тое неба,*
*Дзе чужое сонца.*
*Мне б агеньчык,*
*мне б праменьчык*
*З роднага ваконца.*
*На святло і на цяпельца*
*Паімкнуся-мкнуся,*
*Бо да смерці маё сэрца*
*Разам з Беларуссю».*

Вось гэта мой прынцып і прынцып майго сына.

**Таццяна:** Мы давалі яму выбар. Можа, недзе ў глыбіні, шкадуючы яго, гледзячы на тое, што адбываецца... Я б ведала, што мне так было б спакайней. Але мы былі ўпэўнены, што сын гэтага не зробіць ніколі.

***— Які з перыядаў зняволення сына стаў для вас самым цяжкім?***

**Таццяна:** Калі Пашу першы раз узялі, яшчэ ў 1998 годзе, я нават страціла прытомнасць. Але сёння ўлада проста выйшла з берагоў і вось гэтым брудам, гэтымі памыямі залівае ўсё вакол сябе.

**Кастусь:** Усе перыяды цяжкія, кожны па-свойму. Маральна яны Паўла не зломяць ніколі. Адзінае, чым яны могуць яму дасадзіць, — губіць здароўе. Гэта яны ўмеюць, і гэта невыносна.

Дарэчы, у 1998-м я быў вядомым журналістам. Сувязі ў мяне былі высокія. І вось набіраю начальніку ў пракуратуру, кажу: «Дапамажы!» А ён адказвае: «Лепш бы твой сын забіў каго-небудзь, увечары сядзеў бы дома».

***— Атрымліваецца, што ўсё жыццё Павел змагаецца не з нейкай там уладай, а з канкрэтным чалавекам — Лукашэнкам.***

# «Была верагоднасць, што на Іру стануць

**Мінчанку Ірыну Шчасную затрымалі ў лістападзе мінулага года ў яе дома наўпрост на вачах яе 10-гадовага сына. З тых часоў яна ўтрымліваецца пад вартай — 27 лістапада ёй прад'явілі абвінавачванне за «ўдзел у масавых беспарадках».**



Муж Ірыны Аляксандр праз тыдзень пасля затрымання жонкі тэрмінова выехаў разам з сынам ва Украіну, дзе і знаходзіцца дагэтуль. Ён распавёў пра тое, што было пасляператрусу, і як Ірына жыве цяпер.

### Усё адбывалася на вачах сына

Аляксандр і Ірына пазнаёміліся ў 2006 годзе і ажаніліся ў 2010-м, у той жа год нарадзіўся сын Герман. Ірына была даволі актыўнай — яна з'яўляецца магістрам палітычных навук і заўсёды цікавілася палітыкай. Аляксандр жа займаўся будаўніцтвам і ў апошні час фактычна забяспечваў сям'ю.

Ірыну затрымалі 18 лістапада ў яе кватэры ў Мінску. Прычым, як распавяла сястра затрыманай Наталля, супрацоўнікі сілавога ведамства выглядалі як работнікі ЖЭСа.

Сілавікі трапілі ў дом, калі ўвайшлі за маці Ірыны. Спачатку «жэсаўцы» пацікавіліся, ці ёсць у кватэры гарачая вада, на што жанчына адказала, што не жыве тут і не можа адказаць на іх пытанне. Тады людзі, апранутыя ў форму супрацоўнікаў ЖЭСа, дачакаліся, пакуль жанчына адчыніць дзверы ў кватэру, адштурхнулі яе і зайшлі ўнутр.

Наталля дадала ў гутарцы з журналістам TUT.BY, што ўсё апісанае адбывалася на вачах 10-гадовага сына Ірыны і вельмі яго напалохала. Нават цяпер хлопчык не любіць успамінаць пра ўбачанае.

Спачатку сваякі не разумелі, за што затрымалі Ірыну, але 20 лістапада ў telegram-канале прэс-сакратара МУС выйшла паведамленне, што Ірына была адміністратарам «дэструктыўных тэлеграм-каналаў», у тым ліку «Мая краіна Беларусь» (пазней telegram-канал паведаміў, што Ірына была іх рэдактарам).

27 лістапада Ірыне прад'явілі абвінавачванне па частцы 2 артыкула 293 Крымінальнага кодэкса (удзел у масавых беспарадках). Цяпер яна ўтрымліваецца ў СІЗА-1 Мінска. Пазбаўлены рэгістрацыі Праваабарончы цэнтр «Вясна» прызнаў яе палітвязнем.

18 студзеня Ірыне працягнулі тэрмін утрымання пад вартай, аднак адвакат не змагла атрымаць копію пастановы, бо следчы цяпер знаходзіцца на бальнічным.

### «Я б не пакінуў Беларусь, калі б не дзіця»

Муж затрыманай Аляксандр ужо амаль два месяцы жыве разам з сынам Германам ва Украіне.

— Мяне не было дома, калі затрымлівалі Ірыну, — я заехаў у краму купіць штосьці па працы, — успамінае ён. — Я даведаўся пра тое, што адбылося, са званка Валянціны Іванаўны, мамы Ірыны. Пасля гэтага я не паехаў дадому, бо разумеў, што калі зайду ў кватэру, то ўжо магу не вярнуцца. Пасля таго, што адбылося, я з'яўляўся дома літаральна на пару хвілін.

Чаму мы з'ехалі? Я не планаваў пераезд і не пакінуў бы Беларусь нават у такіх абставінах, калі б не дзіця. Я ў першую чаргу хваляваўся за сына. У мяне канфіскавалі ўсе тэлефоны, ноўтбукі, і што там маглі б знайсці, застаецца загадкай. А калі б мяне затрымалі на тыя ж 15 сутак, то сын аўтаматам бы трапіў у інтэрнат, пакуль бабуля афармляла б апякунства. Дапусціць гэтага было ніяк нельга.

Акрамя таго, была верагоднасць, што на Іру стануць ціснуць дзіцем. Яна любіць сына больш за ўсё на свеце, і, як сказала адвакат, уздыхнула з палёгкай, калі даведалася, што мы выехалі за мяжу.

Аляксандр з'ехаў з краіны 24 лістапада — праз тыдзень пасляператрусу. Прычым каталізатарам да яго ад'езду паслужыў званок у нядзелю ўвечары — той, хто тэлефанаваў, прадставіўся супрацоўнікам службы

# аптымісты, і мы дачакаемся сына!»

**Кастусь:** Не, ён не змагаецца з Лукашэнкам! Яго прынцып — не супраць Лукашэнкі, а за краіну. Ну, а Лукашэнка... Прыйдзе час, калі будуць казаць, што ён проста нейкі дзяржаўны дзеяч у часы Паўла Севярынца.

***— Ці прадчувалі вы, што гэтыя выбары прывядуць сына да чарговага зняволення?***

**Тацццяна:** Вядома, прадчувалі. Толькі думалі — калі? Перад мітынгам на Камароўцы Паша быў тут, у Віцебску. Ён нават прасіў мяне, каб не ішла туды, таму што ведаў, чым гэта можа скончыцца. Калі яго забралі, я ведала дакладна, што Паўлу налічаць як мага больш парушэнняў, каб даваць раз за разам па пятнаццаць сутак. Але на той момант я нават не думала, што гэта будзе турма. Потым Пашу змясцілі ў карцар, тады ўжо я адчула, што пагроза ёсць. Калі скончыліся суткі, я прыехала ў Мінск, каб дапамагчы Вользе з Францішкам (жонка і сын Паўла), супчык Пашаў улюбёны зварыла... А ўвечары патэліў следчы. Так мы даведаліся, што Паша яшчэ не хутка выйдзе... Вядома, крымінальную справу ўзбудзілі ні за што. Але народ так моцна ўзняўся, што было зразумела: Паўла, моцнага лідара, не выпусцяць. Інакш бы гісторыя ў нас была ўжо зусім іншая. Усіх тых людзей, у якіх ёсць лідарскія якасці, яны трымаюць у зняволенні, таму што супраць гэтых людзей, супраць духу свабоды і волі яны — ніхто, з усімі сваімі стрэльбамі, шчытамі, шаломамі...

***— Як часта да вас даходзяць лісты ад сына з Валадаркі, пра што ён піша?***

**Тацццяна:** Цяпер нам прыйшоў сорак пяты ліст. Як мы разумеем, каля дзясятка нашых лістоў Паўлу недзе згубіліся. Я нястрыманая ў сваіх эмоцыях, я вельмі жадаю, каб гэты цэнзар, які вычытвае мае лісты, хоць што-небудзь зразумеў. Аднойчы дзяўчынка даслала Паўлу малюнак з бел-чырвона-белым сцягам. Прыходзіць нам ліст ад Паўла з гэтым малюнкам, а там усё перакручана, іншыя колеры, нейкія свастыкі... Паша ў лісце пытаецца: «Мамачка, што гэта значыць?» Я ведаю, чыя дачушка гэты малюнак даслала, папрасіла арыгінал, і зразумела, што гэта цэнзар пашкодзіў малюнак. Ці мог разумны чалавек, які паважае сябе, такое зрабіць?

**Кастусь:** Павел піша, што ў дзень атрымлівае да сарака лістоў і ўсім імкнецца адказаць. Піша, што сядзіць у камеры-двойцы, што адмовіўся ад дачы паказанняў, што яму змянілі следчага. Дарэчы, ведаю, калі прыйшоў новы следчы, Паша заўважыў у яго крыжык на шыі і спытаў: «Вы што, верыце ў Бога?», а той пачаў свідраваць яго поглядам. І Паша пачаў свідраваць яго поглядам. Сын кажа, што следчы так дваццаць секунд паглядзеў і адвёў вочы. А Павел заўсёды адмаўляецца ад дачы паказанняў і кожнаму следчаму кажа: «Ідзіце і пакайцеся, што вы робіце?»

***— Вольга, жонка Паўла, звяртаецца да вас па дапамогу?***

**Тацццяна:** Яна стараецца абыходзіцца сама, але мы звязваемся амаль штодня. Учора, напрыклад, размаўлялі. Волечка кажа, што верыць у лепшае, але рыхтуецца да горшага. Яна вельмі спадзявалася, што да новага года Паша выйдзе. Але побач яе сын, Францішак. Дзеткі заўсёды падтрымліваюць.

***— Ці атрымліваецца ў вас жыць не толькі пакутамі сына, але і знаходзіць моц для звычайнага жыцця, звычайных радасцяў?***

**Тацццяна:** Жыццё — яно такое. У нас сем унукаў. І акрамя Пашы ў нас дзве дачушкі — Ганна і Дашанька. Для мяне гэта такая радасць, калі ўнукі прыязджаюць. Да таго ж ёсць сяброўкі, з якімі можам сустрэцца і паразмаўляць. У нас цудоўная



каманда БХД, ініцыятыва «Віцебск — горад наш!», мы шмат чаго дамагліся ў горадзе. Такая я натура, неспакойная. Цяжка дзень перажыць, калі ты, як той Мюнхгаўзэн, нейкі подзвіг не здзейсніў, хоць бы маленькі!

***— Ці ёсць у вас адчуванне хуткай перамогі?***

**Тацццяна:** Трэба мець на ўвазе, што нас 26 гадоў катавалі, знішчалі і рыхтавалі па сутнасці да гэтага дня. Распавяду адну гісторыю. Мы вярталіся з чарговага суда, і адна жанчына зрабіла мне заўвагу: «Як ты можаш спакойна размаўляць з ахоўнікамі?» А я заходжу, вітаюся з імі, два пальцы паказваю... Яны ўжо мяне ведаюць, пашпарт не патрабуюць, пытаюцца, як мае справы. І вось я той жанчыне тлумачу, што, па-першае, яны не маюць ніякага дачынення да катаванняў. Гэта людзі, а з людзьмі трэба размаўляць так, як жадаеш, каб з табой размаўлялі. Жанчына пачала мяне пераконваць, што я буду той, якая дарує ўсім, калі мы пераможам. Гэта мяне моцна закранула. Кажу ёй: «Слухай, калі я стаяла ў пікетах яшчэ ўвосень 2019 года, адна пад бел-чырвона-белым сцягам, альбо нас стаяла дванаццаць чалавек на Плошчы Перамогі, на вачах усіх гэтых ціхушнікаў, якія нас здымалі, чаму цябе не было побач?» Яна кажа, што прачнулася толькі 9 жніўня. І я адказала: «Дзякуючы таму, што ты прачнулася толькі 9 жніўня, мы жывем так, як жывем. Ты спрыяла злачынству, якое зараз адбываецца. Вось там царква, пакайся і тады ўжо нешта мне кажы, каб было справядліва».

Таму ўсе тыя людзі, якія прачнуліся толькі 9 жніўня, альбо тады, калі Бабарыка ці Ціханоўскі абвясцілі кампанію, — гэта цудоўна. Але вы павінны разумець, што гэта ўсё адбываецца таму, што вы так доўга спалі. А цяпер давайце разам думаць, ад кожнага з нас усё залежыць. Таму што шмат хто палез зноў у гэтую гнойную кучу. Палезлі, таму што баяцца. Учора я размаўляла з сястрой, яна распавяла мне пра знаёмых, якіх прымушалі падпісваць ліст ад прафсаюзаў. Я пытаю: «І беглі падпісваць?» Яна кажа: «А што ім рабіць?» Ну, калі яны падпісалі, то няхай ведаюць, што разам з тым падпісалі сабе і сваім дзецям прысуды. Таму прадчування вельмі хуткай перамогі, на жаль, у мяне няма.

**Кастусь:** Даваць прагнозы ў такіх варунках — няўдзячная справа. Калі б мне хто-небудзь у 1985 годзе сказаў, што СССР ляснецца, я б проста пасмяяўся. А ўсё здарылася за тры дні. Так і тут. Перамены абавязкова будуць.

***— Цяпер маладым людзям бывае цяжка, бо не заўсёды бацькі падтрымліваюць іх пазіцыю і прынцыповасць. Што б вы сказалі такім бацькам?***

**Тацццяна:** Ведаю такія гісторыі, яны вельмі балючыя! Я б нават не сказала, я б здзівілася, як можа вось гэтая пачвара быць даражэй за ўласнае дзіця? Гэта ж ваша крывінка! А тое — хто яно вам? Сваё дзіця паспрабуйце хаця б зразумець.

**Кастусь:** Тут я з Тацццянай на сто адсоткаў згодны. Наш пасыл адзіны: прыслухоўвайцеся да сваіх дзяцей, разумейце, любіце іх, верце ім, безаглядна верце! Ім жыць, гэта іх будучыня.

**Фота з асабістага архіву сям'і Севярынцаў**

# цісНуць дзіцем»



газу і папрасіў знаходзіцца ў пэўны дзень дома — для праверкі газавага абсталявання.

Аляксандр вырашыў не чакаць прызначанай даты, а сабраў усё, што мелася пад рукамі, і выправіўся з сынам у шлях. Яму трэба было дзейнічаць хутка і перасекчы мяжу да таго, як дзіцяці трэба было з'явіцца ў школе (Герман вучыцца ў другую змену).

— Мне ўжо па дарозе да мяжы тэлефанавалі з сацапекі і школы, казалі, што з імі звязалася міліцыя, бо месцазнаходжанне дзіцяці не ўстаноўлена. Сацслужба мне распавядала, кага яны там будуць пазбаўляць бацькоўскіх правоў, — успамінае Аляксандр. — Але мне пашанцавала — і мяжу, і КПП нам удалося прайсці лёгка і проста.

Яшчэ адна ўдача — што ў Кіеве ў Аляксандра былі знаёмыя, якія дапамаглі сям'і ў першы час. Паводле яго слоў, ва Украіне ўжо ўтварылася сапраўдная супольнасць беларусаў, дзе ўсе ўдзельнікі вельмі хочуць вярнуцца назад на радзіму.

— Я ведаю тут хоць кагосьці, і гэта добра. Таму што цяпер сюды прыязджаюць людзі, у якіх у Кіеве няма ні родных, ні сяброў, — едуць — як атрымліваецца, — кажа мужчына. — Мы ўжо тут уладкаваліся, здымаем кватэру, я займаюся пытаннямі афармлення віду на жыхарства. Герман вучыцца — удалося забраць дакументы з мінскай школы і заключыць дамову тут. Ён ведае, дзе мама, ён разумны хлопчык і выдатна разумее, што адбываецца. Але, вядома, яго жыццё змянілася. Раней вакол яго было столькі сваякоў, былі мама і тата, а цяпер ён сядзіць дома, і яму даводзіцца самастойна вучыць урокі, займацца і сачыць за сабой.

За час, які Аляксандр і Герман жывуць у іншай краіне, да іх у мінскую кватэру прыходзілі «госці». Так, аднойчы з бацькам хлопчыка звязалася інспектар па справах непаўналетніх, якая папрасіла, каб ён напісалі заяву, што «з дзіцем усё добра».

— У дадатак трэба паказаць адрас пражывання сына і ці ледзь не фота ўмоў, у якіх ён жыве. Не ведаю, навошта гэта трэба. Я законны прадстаўнік дзіцяці, і тым больш знаходжуся на тэрыторыі замежнай дзяржавы, — кажа Аляксандр.

### «Яна ўяўляе, што яе чакае, і гатова з гэтым справіцца»

Аляксандр кажа, што за ўвесь час, які Ірына знаходзіцца пад вартай, яна атрымала толькі два лісты ад сястры. Больш ад родных і блізкіх паведамленняў ёй не прыходзіла, а пачынаючы з 22 снежня не даходзяць і лісты ад самой дзяўчыны.

— Гэта дзіўная сітуацыя, адвакат сцвярджае, што Ірына дакладна іх піша, — распавядае мужчына. — І Іра прасіла, каб ёй перадалі васковыя крэйды, алоўкі, лісты. Але адпраўленую бандэроль яна так не атрымала.

На шчасце, ежа, цыгарэты і розныя рэчы першай неабходнасці ёй усё ж даходзяць — хоць бы ў гэтым недахопу яна не адчувае. Але, вядома, СІЗА — гэта не курорт.

Нягледзячы на адсутнасць сувязі са знешнім светам, Ірына, як кажа яе муж, не сумуе. Па словах адваката, Ірына Шчаснаяя выглядае добра і не губляе прысутнасці духу. У СІЗА ёсць бібліятэка, так што Ірына чытае адну кнігу за другой. А днямі яна разам з сукамерніцамі зладзіла конкурс на лепшае прачытанне Кандрата Крапівы.

— Іра імкнецца трымацца, сыходзіць думкамі ад гэтай сітуацыі. Яна ўяўляе, што яе чакае, і гатова з гэтым справіцца, — дадае муж.

Аляксандр дакладна не ведае, калі будзе суд над яго жонкай. Перад гэтым, па ідэі, яшчэ павінны прайсці следчыя дзеянні. Пакуль жа ён спадзяецца, што адвакат усё ж атрымае копію пастановы, бо гэта будзе «адзін з нямногіх дакументаў, якія з'явяцца» ў яго наогул.

— Дакументаў у мяне па ператрусу і арышту жонкі ў мяне наогул няма. У мяне кватэру, можна сказаць, абчысцілі, а я нават не ведаю, што там канфіскавалі, а што не, — сцвярджае ён.

**Паводле 42.TUT.BY**

**Фота з сацыяльных сетак**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАТАРСТАН. Не дазволіць забараніць герб!

Грамадзяне Татарстана 7 лютага традыцыйна адзначаюць Дзень дзяржаўнага герба. Менавіта ў гэты дзень у 1992 годзе пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Татарстан быў зацверджаны герб аўтаноміі, на якім выяўлены крылаты барс, у коле народнага арнаменту і з надпісам «Татарстан».

Аднак у гэтым годзе свята прайшло ў напружанай атмасферы. Напярэдадні экс-дэпутат Дзярждумы Фандас Сафіулін заявіў, што праз пуцінскую палітыку цэнтралізацыі герб Татарстана можа знікнуць у любы момант. «Яго неабходна захаваць. Герб — гэта нашае мінулае, а надзеі на будучыню пакуль у ім няма», — адзначыў палітык.

У знак пратэсту супраць магчымай забароны ў Татарстане прайшлі акцыі. Паколькі атрымаць санкцыю на правядзенне мітынгу цяжка, давялося абмежавацца раздачай сцяжкоў. Цікава, што акцыя зноў выклікала дэбаты наконт сімволікі. Многія татары заклікаюць адмовіцца ад цяперашняга герба, паколькі татэмнай жывёлай у цюркскіх народаў, у асноўным, з'яўляецца воўк. У прыватнасці, у татараў гэта белы воўк, малюнак якога і павінен, нібыта, стаць сімвалам краю.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. «Валасатае войска»

Немцы адзначаюць незвычайны юбілей. 50 гадоў таму, 7 лютага 1971 года, міністр абароны ФРГ эсдэк Гельмут Шміт дазволіў навабранцам захоўваць тую ж прычоску, што была і ў цывільным жыцці. Рэкруты маглі таксама мець бароды. «Бундэсвер не можа ігнараваць развіццё агульнага густу», — растлумачыў міністр, які, дарэчы, у час вайны быў баявым лётчыкам.

Азіраючыся назад, тую рэформу можна разглядаць як праяву агульнай лібералізацыі грамадства. Аднак у яе адразу ж з'явіліся ворагі. Кансерватары з-за акіяна ўспрынялі змены як антыамерыканскі жэст. У Амерыцы доўгія валасы былі сімвалам пратэсту супраць удзелу ЗША ў вайне ў В'етнаме. Былі незадаволеныя і немцы высокапастаўленыя вайскоўцы, шакаваныя знешнім выглядам сваіх падначаленых. Крытыкавалі навай ўвядзенні і маці, якія спадзяваліся, што армія навучыць іх сыноў дысцыпліне і парадку.

Аднак у выніку ўсё вырашылі лекары, якія фіксавалі рост прастудных захворванняў з-за мокрых валасоў. У траўні 1972-га Шміт адмяніў сваё распараджэнне аб прычосках, хоць некаторыя час Бундэсвер яшчэ жартоўна працягвалі называць «валасатым войскам».

**Паводле нямецкай прэсы**

### НІДЭРЛАНДЫ. Выключыць чырвонае святло

Гарадскі савет Амстэрдама ўхваліў план закрыць знакаміты «квартал чырвоных ліхтароў», дзе знаходзяцца сотні бардэляў. Уладам гораду давялося задаволіць скаргі мясцовых жыхароў, якія банальна стаміліся ад натоўпаў турыстаў, што ходзяць па мясцовых вузкіх вулачках, каб паглядзець на паўаголеных жанчын. Зрэшты, работнікам секс-індустрыі паабяцалі збудаваць «эратычны цэнтр» у іншым месцы.

Перспектыва пераезду шмат каму з іх не вельмі падабаецца, бо новае месца наўрад ці зможа канкураваць па папулярнасці з «раёнам чырвоных ліхтароў». Але, падобна, пакінуць усё, як раней, цяпер ужо не атрымаецца. Ідэю «выключыць чырвонае святло» падтрымалі ўсе партыі, якія прадстаўленыя ў гарсавеце. «Мы заўсёды рады турыстам. Але не любой цаной», — заявіў мэр Амстэрдама, аргументуючы рашэнне наконт квартала.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Паслалі на ...




У Расіі з 1 лютага набылі моц папраўкі ў закон «Аб інфармацыі, інфармацыйных тэхналогіях і аб абароне інфармацыі». Яны абавязалі сацыяльныя сеткі на працягу сутак выдаляць публікацыі з незаконным кантэнтам, пад які трапляе і нецэнзурная лаянка. Прайшоў тыдзень — і вось падведзеныя першыя вынікі. 1–2 лютага 2021 года ў сетках «ВКонтакте», «Однокласники», Facebook, Twitter, Instagram расіяне зрабілі 646 тысяч публікацый з выкарыстаннем ненарматыўнай лексікі. Пры гэтым у першыя два працоўныя дні мінулага года ў тых жа самых сацсетках зафіксавалі толькі 426,5 тысячы нецэнзурных выразаў.

Атрымліваецца, што забарона толькі стымулявала жаданне «пасылаць» усіх направа і налева. Гэта з сумам прызнаў Раскамнагляд. Зрэшты, некаторыя допускаюць, што брутальнай лексікі стала больш з-за таго, што на пачатак лютага прыпаў крызіс вакол Навальнага. Гэта выклікала ў інтэрнэце эмацыйныя палітычныя спрэчкі. Так ці інакш, усё той жа Раскамнагляд паабяцаў да сакавіка цалкам зачысціць сетку ад нецэнзуршчыны.

**Паводле расійскай прэсы**

# Бунт на Басфоры

Алег НОВІКАЎ

**У Турцыі ўжо другі месяц не сціхаюць масавыя студэнцкія пратэсты. Каб іх скампраметаваць, уладзе давялося запісаць усіх пратэстоўцаў у шэрагі тэрарыстаў, актывістаў ЛГБТ і шпіёнаў замежных разведцэнтраў.**




Фота www.ru.armeniasputnik.am

Акцыі пратэсту пачаліся пасля таго, як да новага 2021-га года прэзідэнт Рэджэп Таіп Эрдаган зрабіў студэнтам Басфорскага ўніверсітэта (Стамбул) арыгінальны падарунак — прызначыў прафесара Меліха Булу рэктарам навучальнай установы.

Сам Булу лічыцца вельмі лаяльнай да рэжыму фігурай. У тым ліку таму, што раней ён балатаваўся ў парламент у якасці кандыдата ад кіруючай Партыі развіцця і справядлівасці (АКР). Незадаволеныя прызначэннем пішуць, што ўся папярэдняя дзейнасць Булу была звязаная з кіроўнай працай у муніцыпалітэтах, якія кантралявала партыя Эрдагана.

Аднак галоўнай крыніцай незадаволенасці з'яўляецца тое, што Эрдаган з гэтага часу ўзяў за моду ўласнаручна прызначаць рэктараў універсітэтаў. Да ліпеня 2016 года, калі адбылася спроба дзяржаўнага перавароту, рэктары турэцкіх ВНУ абіраліся шляхам галасавання, як гэта звычайна прынята ва ўсім свеце. Таму студэнты заклікалі Булу сысці ў адстаўку з пасады рэктара і дазволіць універсітэту самастойна абраць кіраўніка. На іх думку, прызначэнне Эрдагана з'яўляецца замахам на акадэмічныя свабоды.

Менавіта важная для ўсіх студэнтаў Турцыі тэма абароны акадэмічных свабод дазволіла пратэстам выйсці за межы аднаго ўніверсітэта. Пазней да дэманстрацый далучыліся некаторыя левыя палітычныя сілы і прафсаюзы. Лідар вядучай апазіцыйнай Народна-рэспубліканскай партыі (НРП) Кемаль Кылычдараглу таксама выказаў падтрымку пратэстоўцам. Нават былы міністр эканомікі заявіў, што здольныя думаць студэнты ніколі не з'явяцца ва ўніверсітэтах, дзе рэктары прызначаюцца па прыкмеце палітычнай лаяльнасці.

Відавочна, што на гэтым этапе пратэсныя выступы накіраваныя ўжо не столькі супраць канкрэтнай фігуры Меліха Буду, колькі маюць негалосны антыпрэзідэнцкі падтэкст. Увесь спектр апазіцыі напалоханы рэплікай гаранта на нядаўнім выступе перад партактывам АКР. На партыйным сходзе Эрдаган абвясціў, што вывучае праект новай Канстытуцыі. Тут жа пайшлі гуляць плёткі, што канстытуцыйная рэформа спатрэбілася яму, каб атрымаць права на пажыццёвае прэзідэнцтва.

Сваёй моцнай дынаміцы пратэст абавязаны і незвычайным фактарам. У Турцыі ёсць уплывовая арганізацыя выпускнікоў Басфорскага ўніверсітэта, чальцы якой пачалі ствараць лакальныя цэнтры салідарнасці з навучэнцамі alma mater. Па-другое, пратэст ускосна накіраваны супраць непапулярнай каменданцкай гадзіны, якая быў уведзеная ў рамках барацьбы супраць эпідэміі каронавіруса і дзейнічае па ўсёй краіне з 21.00. У гэты час многія туркі выходзяць на балконы і грукаюць у посуд на знак салідарнасці са студэнтамі.

Зрэшты, галоўнай арэнай бітвы застаецца Стамбул, а дакладней — раён Kadıköy, дзе рэгулярна адбываюцца жорсткія сутычкі студэнтаў і паліцыі. Праваахоўнікі выкарыстоўваюць слёзацечны газ і гумавыя кулі. Некалькі соцень студэнтаў ужо затрыманыя за ўдзел у пратэстах. Прычым некаторых арыштавалі пасля ператрусаў у іх дамах і кватэрах. У сувязі з гэтым да патрабавання пра адстаўку рэктара дадаўся лозунг наконт вызвалення арыштаваных.

**На партыйным сходзе Эрдаган абвясціў, што вывучае праект новай Канстытуцыі. Пайшлі плёткі, што канстытуцыйная рэформа спатрэбілася яму, каб атрымаць права на пажыццёвае прэзідэнцтва**

Хапун суправаджае маштабная прапагандысцкая кампанія ва ўрадавых СМІ. Эрдаган ужо назваў студэнтаў-пратэстоўцаў «тэрарыстамі». «Я не прымаю пазіцыю гэтых маладых людзей, якія з'яўляюцца чальцамі тэрарыстычных груп, што ўносяць раскол у нацыянальныя і маральныя каштоўнасці нашай краіны», — заявіў палітык.

Для дыскрэдытацыі пратэсту ў СМІ раскручваюць канфіскаваны пры арышце ў групы студэнтаў плакат. На ім намаляваны камень Кааба — святыня Іслама — са сцягамі ЛГБТ. Гэта стала падставай, каб абвінаваціць студэнтаў у абразе рэлігійных каштоўнасцяў мусульман. Міністр унутраных спраў тут жа назваў студэнтаў-пратэстоўцаў «ЛГБТ-вычварэнцамі».

Захад, які, як вядома, моцна носіцца з правамі ЛГБТ, адразу звярнуў увагу на гамафобныя пасажы Анкары. Вашынгтон «рашуча асудзіў рыторыку супраць ЛГБТ-супольнасці», а Брусель заявіў, што «ксенафобскія выказванні высокапастаўленых чыноўнікаў непрымальныя». У адказ на гэта, звяртаючыся да групы сваіх прыхільнікаў, турэцкі гарант заклікаў іх «не слухаць лесбіянак». Пазней жа Эрдаган заявіў, што «такога паняцця, як ЛГБТ, увогуле не існуе».

Таксама турэцкі МЗС апаратыўна агучыў версію пра сувязі студэнтаў з замежнымі разведкамі. «Мы папярэджваем пэўныя колы за мяжой не выкарыстоўваць групы правакатараў, якіх заахвочваюць на незаконныя дзеянні. Нікому не дазволена ўмешвацца ва ўнутраныя справы Турцыі», — рашуча заявіла турэцкая дыпламатыя, не называючы пры гэтым ніводнай канкрэтнай краіны. Акрамя таго, у «лялькаводы» студэнцкіх пратэстаў афіцыёз ужо запісаў курдскіх сепаратыстаў.

На думку каментатараў, улада будзе рабіць усё, каб не дапусціць масавых антыўрадавых пратэстаў, падобных да тых, якія пракаціліся па Турцыі ў 2013 годзе. Падставай для акцый грамадзянскага непадпарадкавання стала пагроза высечкі дрэваў у стамбульскім парку Гезі, што прымыкае да стамбульскай плошчы Таксім, якая сімвалічна звязаная са спадчынай заснавальніка турэцкай рэспублікі Мустафы Кемаля Атацюрка. Многія туркі мяркуюць, што палітыка Эрдагана падпарадкаваная ідэі рэвізіі запаветаў Атацюрка. Адсюль і такая вялікая мабілізацыя ў абарону парка Гезі. Буйныя выступленні ў 2013-м, акрамя іншага, выклікалі ўздым грамадзянскага руху і фарміравання новых апазіцыйных цэнтраў.

Ці атрымаецца ў студэнтаў-пратэстоўцаў рымейк 2013-га? Пакуль яны ўпэўненыя, што ім гэта пад сілу. «Чым даўжэй працягваецца пратэсты, тым больш становіцца відавочным, што гэта паўстанне, па меншай меры, у Стамбуле, можа стаць новым цэнтрам супраціву ўраду Эрдагана», — напісала днямі адно з мясцовых апазіцыйных выданняў.

# Перавыхавацца і выжыць

Алег НОВІКАЎ

**На Захадзе сур'ёзна занепакоеныя тым, што ў кітайскай рэгіёне Сіньцзян масава беспадстаўна затрымліваюць ледзь не мільёны ўйгураў, таджыкаў, казахаў і іншых — і змяшчаюць іх у спецыяльныя выхаваўчыя лагеры.**



Фота www.diana-mihailova.livejournal.com

Увогуле, уйгурам да рэпрэсій не прызвычайвацца. Апошнія буйныя эксцэсы здараліся ў 50–60-я гады мінулага стагоддзя, калі ў межах палітыкі «вялікага скачку», паводле загаду Маа, усіх абарыгенаў краю загналі прыкладна ў 450 працоўных камун, якія жылі па статуту вайсковай часткі.

Праца па 16 гадзін на суткі, а таксама жорсткая культурная асіміляцыя (напрыклад, перавод уйгурскага алфавіту з арабскай графікі на лацінку) выклікалі заканамернае незадаволенне. Дзе-ндзе гэта вылівалася ў беспарадкі, якія падаўлялі з дапамогай зброі. Але самы арыгінальны праект меў месца ў 1962 годзе, калі сто тысяч (!) чалавек сабралася і масава ламанулі праз стэп на савецкую тэрыторыю.

Сёння гісторыя пра фокус з масавымі ўцёкамі выглядае фантастыкай. Калі верыць прэсе, у Сіньцзяне створана самая эфектыўная ў гісторыі сістэма кантролю грамадзян.

Першыя звесткі пра існаванне нейкіх асаблівых установ для мусульман-уйгураў сталі з'яўляцца з 2014 года. Але ўжо раней (у 2012-м) журналісты пісалі, што ў Сіньцзяне пачалася кампанія па барацьбе з экстрэмізмам сярод уйгураў, часткай якой з'яўлялася абавязковае «перавыхаванне».

Тады пад гэтым разумеўся шэраг абмежаванняў. У прыватнасці, пад забарону трапілі доўгія бароды, нашэнне адзення, якое закрывае твар, у грамадскіх месцах. Таксама было забаронена называць дзяцей імёнамі, што «заахвочваюць рэлігійны запал» (напрыклад, былі забароненыя такія імёны, як Мухамед і Фаціма). Мусульманам, у тым ліку чыноўнікам, забаранілі адзначаць Рамадан і іншыя рэлігійныя святы. Трошкі пазней уйгураў абавязалі здаваць пашпарты на захоўванне ў паліцыю.

Апісаныя мерапрыемствы, відавочна, былі накіраваныя на тое, каб не дапусціць паўтарэння падзеяў, якія адбыліся ў 2009 годзе. Тады ў Сіньцзяне ўспыхнулі беспарадкі ў адказ на бытавую бойку паміж уйгурамі і кітайскімі рабочымі. У выніку загінула больш за 100 чалавек. Пасля беспарадкаў уйгурскія радыкалы арганізавалі серыю экстрэмісцкіх вылазак, у тым ліку замахі на сілавікоў.

З часам у Пекіна з'явіўся дадатковы галаўны боль, звязаны з Сіньцзянам. Прэса пісала пра пагрозу вяртання на радзіму некалькіх тысяч уйгураў, якія ваявалі ў Сірыі і Іраку на баку тэрарыстычнай групоўкі «Ісламская дзяржава». Такі варыянт азначаў бы рэгіянальную эскалацыю, што і магло прымусіць урад КНР пайсці на самыя беспрэцэдэнтныя прэвентыўныя меры, якія хутчэй нагадваюць палітыку этнічнай зачысткі.

Неўзабаве пачалі з'яўляцца першыя чуткі пра нейкія спецыяльныя аб'екты, вязні якіх праходзяць курс карэкцыі паводзінаў і думкаў. У 2016 годзе з'явіліся першыя падрабязнасці ад сведкаў пра тое, як сітуацыя выглядае на самай справе.

> **Вязняў лагераў прымушаюць публічна адракацца ад ісламскай рэлігіі. Для гэтага ў ход ідзе такі немудрагелісты спосаб, як меню — прымусовае кармленне свінінай, якая, як вядома, забароненая ў ісламе**

Карціна, вядома, атрымліваецца змрочная. На тое «перавыхаванне» можна трапіць вельмі лёгка. Напрыклад, за наяўнасць дома кіліму. Ахоўнікі парадку могуць западозрыць, што прадмет патрэбны для рэлігійнага рытуалу. Таму вязняў лагераў прымушаюць публічна адракацца ад ісламскай рэлігіі. Для гэтага ў ход ідзе такі немудрагелісты спосаб, як меню — прымусовае кармленне зняволеных свінінай, якая, як вядома, забароненая ў ісламе.

Найбольш цяжка ў такіх лагерах, гледзячы па ўсім, жанчынам. Адна з мусульманак, якой давялося больш за год правесці ў лагеры, распавяла французскаму тэлебачанню пра некалькі ін'екцый невядомымі прэпаратамі. Пасля вызвалення лекары ёй паведамілі, што яна падвергнулася медыкаментознай стэрылізацыі. Застаецца дадаць, што час знаходжання ў такім лагеры бестэрміновы. Інтэрнаваных на свабоду адпускаюць тады, калі палічаць патрэбным.

З іншага боку, да некаторых сенсацый наконт будняў кітайскага ГУЛАГу можна ставіцца з доляй скепсісу. Напрыклад, цяжка ўявіць, як тэхнічна можна прапусціць праз лагеры дзясяткі мільёнаў чалавек (такую лічбу можна сустрэць у прэсе). У 2018-м падчас дакладу экспертаў ААН па становішчы нацменшасцяў прагучала лічба ў 1 мільён зняволеных.

Так ці інакш, больш фактаў на карысць таго, што нейкія аб'екты па перавыхаванні ўйгураў у Сіньцзяне сапраўды існуюць. Уласна, іх наяўнасць не адмаўляе і ўрад КНР. Праўда, пры гэтым сцвярджаецца, што людзі добраахвотна праходзяць «школы перавыхавання» па супрацьдзеянні тэрарызму і рэлігійнаму экстрэмізму. Пры гэтым не паведамляецца, па якіх крытэрах «вучняў» адбіралі ў гэтую «школу» і як доўга доўжацца курсы. Па змесце ролікаў на дзяржаўным тэлебачанні відаць, што ўсе «вучні» — этнічныя ўйгуры, што сведчыць пра прыкмету этнічнай дыскрымінацыі.

Тэма лагераў для ўйгураў на вачах становіцца трыгерам вялікіх геапалітычных турбуленцый. З лютага BBC паведаміла, што жанчыны-зняволеныя ў кітайскіх лагерах перавыхавання сістэматычна падвяргаліся гвалтаванням і катаванням. Паводле расказаў адной з экс-вязняў, супрацоўнікі лагера кожную ноч выводзілі некаторых жанчын з камер і падвяргалі групавому згвалтаванню, а таксама згвалтаванню з дапамогай электрашокера.

Гэтую тэму адразу пракаментавала адміністрацыя Джо Байдэна. «Такія зверствы шакуюць і павінны пацягнуць за сабой сур'ёзныя наступствы», — сказаў прадстаўнік урада ЗША. Раней Злучаныя Штаты заявілі, што кітайская палітыка ў дачыненні да ўйгураў блізкая да вызначэння генацыду. Цяпер застаецца чакаць, каб дадаецца, што ў Белым Доме разумеюць пад «наступствамі», што, без сумневаў, не застануцца без рэакцыі Кітая.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Гурбангулы Бердымухамедаў



Прэзідэнт Туркменістана адкрыў у сабе талент тэатральнага крытыка. На пасяджэнні ўрада ён абурыўся тым, што апошнім часам у тэатрах рэспублікі не ставяць новыя спектаклі, якія апяваюць поспехі краіны і шчаслівае жыццё народа. Сітуацыя, на думку кіраўніка дзяржавы, з'яўляецца вынікам нізкага ўзроўню тэатральнай рэжысуры.

Таксама Бердымухамедаў застаўся незадаволены тым, што праводзіцца недастатковая праца па выяўленні маладых талентаў. Асабліва незадаволены прэзідэнт быў тым, што на 25-гадовы юбілей нейтралітэту «не было арганізавана якіх-небудзь прыкметных культурных мерапрыемстваў». У выніку за неналежнае выкананне службовых абавязкаў, дапушчаныя ў працы сур'ёзныя недахопы міністру культуры аб'явілі строгую вымову з апошнім папярэджаннем.

Між тым, сітуацыя не зусім зразумелая. Дзяржаўныя СМІ рэспублікі рэгулярна паведамляюць пра конкурсы маладых талентаў і патрыятычныя спектаклі. Прычым, многія спектаклі ставяцца па кнігах самога Бердымухамедава. Нагадаем, што, паводле розных СМІ, прэзідэнт напісаў ужо больш за 40 кніг. Такая пладавітасць аўтара сур'ёзна б'е па кішэні работнікаў сістэмы адукацыі. Згодна з патрабаваннямі Міністэрства адукацыі, у кожным школьным класе павінны быць як мінімум тры кнігі Бердымухамедава, якія выкладчыкі мусяць набываць за свой кошт.

### Мануэль Марэра Крус



Кубінскі савет міністраў на чале з Мануэлем Марэра Крусам абвясціў, што колькасць дазволеных для прыватнага бізнесу відаў дзейнасці на востраве павялічыцца з 127 да больш за 2 000. Праўда, якія менавіта віды дзейнасці застануцца ў дзяржавы, кубінскія чыноўнікі пакуль не ўдакладнілі.

Рашэнне пра пашырэнне спісу дазволеных для прыватнага прадпрымальніцтва заняткаў было вымушаным і чаканым на фоне пандэміі. У 2020 годзе ВУП Кубы знізіўся на 11%. Праблемы гаспадаркі часткова маюць намер вырашыць за кошт прыцягнення замежных капіталаў. Акрамя таго, рэформа можа палепшыць адносіны са Злучанымі Штатамі. Літаральна напярэдадні сыходу Дональда Трампа яго адміністрацыя дамаглася ўключэння Кубы ў спіс краінаў — фундатараў тэрарызму. Прэзідэнт Джозэф Байдэн, які крытыкаваў палітыку свайго папярэдніка ў дачыненні да Вострава свабоды, пакуль не рабіў сур'ёзных крокаў па збліжэнні з Кубай. Але яны цалкам верагодныя, улічваючы, што пры Бараку Абаме былі прынятыя пэўныя захады для наладжвання сувязяў Вашынгтона і Гаваны. Эканамічная лібералізацыя можа дапамагчы кубінскаму лобі ў Вашынгтоне аслабіць санкцыі.

У Кангрэс пасля апошніх навін з Гаваны, дарэчы, ужо падалі законапраект аб нармалізацыі гандлёвых адносін Злучаных Штатаў з Кубай. Таксама відавочна, што з'яўленне цэлага класа легальных камерсантаў на Кубе можа паўплываць на палітычную атмасферу на востраве, як атрымалася ў СССР пасля легалізацыі прыватных прадпрымальнікаў. З іншага боку, піянерам кубінскага бізнесу будзе няпроста з-за практычнай адсутнасці пачатковага капіталу.

### Рыгор Яўлінскі



Заснавальнік і адзін з лідараў расійскай сацыяльна-ліберальнай партыі «Яблоко» апублікаваў артыкул, у якім раскрытыкаваў апазіцыйнага палітыка Аляксея Навальнага. У сваёй публікацыі Яўлінскі абвінаваціў Навальнага ў палітычным папулізме і нацыяналізме. Таксама заявіў, што расследаванні «блогера-выкрывальніка, накіраваныя на тое, каб распальваць прымітыўную сацыяльную варожасць». Нарэшце, Яўлінскі лічыць, што Навальнага і яго атачэнне «не хвалюючь паламаныя лёсы грамадзян, якія па іх закліку выйшлі на несанкцыянаваныя акцыі і аказаліся за кратамі».

Артыкул выклікаў чаканы рэзананс у апазіцыйных колах. Паплечнікі Навальнага, натуральна, раскрытыкавалі артыкул Яўлінскага, намякнуўшы, што могуць не падтрымаць «яблычнікаў» на думскіх выбарах увосень. Некаторыя палітыкі ад апазіцыі заявілі, што з партыяй «Белік» ім цяпер не па дарозе. Нават тыя сябры «Яблока», хто ў прынцыпе згодны з тэзісамі свайго партыйнага правадыра, лічаць неэтычнай крытыку чалавека, які атрымаў суровы турэмны тэрмін.

На думку экспертаў, артыкул Яўлінскага адлюстроўвае самаадчуванне старой апазіцыйнай эліты, дзе не бачаць перспектыў у новай хвалі пратэстаў. Але таксама не выключана, што старая апазіцыя падае адпаведныя сігналы ўладзе пра тое, што яна гуляе па правілах — і за гэта някепска было б яе аддзячыць на выбарах працэнтамі галасоў, якія дазволяць «Яблоку» атрымліваць дзяржфінансаванне.

# Мінулае, якое не мінула: ахвяры і адказнасць

Ніна СТУЖЫНСКАЯ

**Цяпер можна пачуць, што на дварэ 1937-мы. Але ў цэну жудасных 1930-х гадоў сціпла хаваюцца злачынствы сістэмы папярэдняга дзесяцігоддзя. Менавіта ў 1920-я адбылася «рэпетыцыя» ГУЛАГу, былі пабудаваны карныя ўстановы.**


Ф. С. Р. ...НСКАЯ ...АЯ КОМИССИ... ...ОРЬБЕ ...ТИРСТВОМ
1920 № 1357 Рязань

В Концентрационный лагерь

Трибунал Губкомдезертир при сем препровождает 2 копии постановлений за №№ 51, 53 для объявления означенным в них Фенюшкину Павлу и Пирязеву Митрофану

Приложение: 2 копии постановл. за №№ 51, 53

Секр. Трибунала Кочерков

Рязан. Губ. лагерь принуд. работ
16 Марта 1920 г.
Казанский женский монастырь г. Рязани

## Трохкутнік пакут

Калі зірнуць на карту Мінска паслярэвалюцыйнага, то нельга не заўважыць, што шлях несвабоды і пакутаў выкладваецца па цэнтры горада няправільным трохкутнікам. Пачатковая кропка нявольніцкага маршруту — падвалы ЧК-ГПУ па вуліцы Петрапаўлаўскай (цяпер Энгельса, 18). З-за недахопу плошчаў і камер у падвалах гэтага будынка арыштантаў вывозілі ў турму на Серпухаўскую (з 1922 года — Валадарскага), дзе для палітвязняў быў асобны паверх, т. зв. верхні калідор, або калідор ГПУ. Калі вязню пашанцавала пазбегнуць расстрэлу ў падвалах ЧК або ў Камароўскім лесе, і спецыяльная камісія давала дазвол на адбыццё пакарання з правам вываду на працу (увогуле за шчасце!), то далейшы шлях вязня пралягаў у канцлагер (цяпер гатэль «Манастырскі»). Рух па трыкутніку ішоў як у адным, так і ў зваротным напрамку.

Метады, якімі дзейнічалі прадстаўнікі крымінальных і новых палітычных «элітаў», былі абсалютна аднолькавыя. Чэкісты і міліцыянты ішлі рабаваць і забіваць (першага чэкіста Яркіна ў Мінску баяліся не менш, чым знакамітых налётчыкаў банды Соні (Маруські) Лагуноўскай), антысаветчыкі і крымінальныя аўтарытэты ўзначальвалі атрады асаблівага прызначэння і ЧК.

Пасля вынясення прысуду вышэйшым судом «за дачыненне да Беларускай Рады» тут на кароткі час (лічыліся за сакрэтным аддзелам ГПУ) «пасяліліся» вядомыя слуцкія палітыкі, героі Слуцкага антысавецкага фронту Пётр і Іосіф Бабарэкі, Пётр і Аляксандр Зянюкі, Аляксандр Ількевіч, Максім Антановіч і іншыя. Мінская турма першай паловы 1920-х гадоў дзякуючы ім яшчэ мела астраўкі свабоды ў несвабодзе. Прастору ўласнай годнасці спрабавалі адстаяць палітвязні: ад жорсткага адзінаборства ў зале суда да высялення з камер крымінальнікаў, часцяком рызыкуючы здароўем.

## Інстытут закладнікаў

Вялікі турэмны кантынгент складалі сваякі вядомых апазіцыянераў рэжыму. Чэкісты на ўсю моц выкарыстоўвалі інстытут закладнікаў, ціскам на сям'ю прымушалі апазіцыянераў скласці зброю. «21 лютага 1923 г. добраахвотна здалася банда 8 чалавек з правадыром Савам Багулевічам» (З аператыўнай зводкі ГПУБел).

Ва ўспамінах старых чэкістаў згадваецца, што была затрыманая і «каханка атамана “класічная” Маруська-бандытка». На справе ж, у лістападзе 1922 года ў жаночае аддзяленне паступіла Агаф'я Трафімаўна Багулевіч, законная жонка атамана. Апошнія дні перад судом жанчына змяшчалася ў жаночай бальніцы ДОПРа. Пасля яўкі мужа з павіннай (аб добраахвотнасці тут і гаворкі не можа быць) Агаф'ю, якая павінна была ўжо хутка нарадзіць дзіця, адпусцілі дадому, а потым выслалі.

Цяпер іх імёны ведае толькі невялікае кола, а тады сялянскія важакі-атаманы карысталіся шырокай вядомасцю. Дзясяткі іх — кожны са сваёй гісторыяй — прайшоў праз турму. Брат «знакамітага», па прызнанні чэкістаў, капітана Мяфодзія Караткевіча, каардынатара антысавецкай партызанкі на ўсходніх беларускіх тэрыторыях Пётр Караткевіч, двойчы здзейсніў дзёрзкія ўцёкі з турмы. Уся падпольная група «зеленадубцаў» размясцілася ў камерах ДОПРа ў апошнія летнія месяцы 1921 года. Чацвёра з іх, у тым ліку дзве жанчыны, былі расстраляныя.

## Святары-пакутнікі

За «антысавецкія праявы» адбывалі тэрміны святары. Святар-«контррэвалюцыянер» з мястэчка Грозава Фёдар Афанасьевіч Струкоўскі быў асуджаны па падазрэнні ў сувязі з антысавецкім падполлем. Мястэчка Грозава і ваколіцы ўпарта супрацьўляліся Саветам у шэрагах слуцкіх паўстанцаў (Грозаўскі полк брыгады БНР), пасля паразы якога грозаўскія сышлі хто ў партызаны, а хто ў падполле. Айцец Фёдар, падобна, быў заадно са сваімі прыхаджанамі.

57-гадовы Якаў Борухавіч Копелевіч абвінавачваўся ў рэлігійным «изуверстве». Што гэта азначала — немагчыма зразумець з куртатых запісаў следчага, аднак «віна рабіна была ўсталяваная». Дзясяткі ксяндзоў і вернікаў касцёла запоўнілі камеры з пачаткам кампаніі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў. Менавіта мінскія каталікі праявілі ўпартае непадпарадкаванне і разам з ксяндзамі былі асуджаныя на высылку ў Сібір.

## «У кіпцюрах»

Норавы Мінскай турмы і спосабы выжывання ў нялюдскіх умовах апісаў Францішак Аляхновіч. Да высылкі на Салаўкі драматург колькі часу ў 1926 годзе правёў у турме. *«Гэтым самым днём, па абедзе, перавялі мяне ў ДОПР, — распавядаў Аляхновіч пра свае пакуты «ў кіпцюрох» Дома папраўчых работ. — З жалем я пакінуў старых таварышоў, камару (камеру ў ГПУ. — Аўт.), да якой прывыкнуў ужо... У перапоўненай, як усюды, камары ДОПРу я першы раз спаткаўся з крымінальным элемэнтам. Хаця крымінальных была меншасьць, яны, аднак, патрапілі стэрарызаваць усю камару. Уначы акуратна нас абкрадалі. Зьядалі нашыя спажывецкія прадукты, забіралі адзежу, абутак. Ніякая рэвізія не магла знайсьці ўкрадзеных рэчаў. Злодзеі выкідалі ўкрадзенае праз ваконныя краты, а там ужо гэта падбіралі іншыя, і гэткім чынам рэчы перадаваліся з камары ў камару...*

*А ўдзень было ня лепш. Удзень яны проста дамагаліся, каб аддаваць тое, да чаго яны прыглядзеліся. Кожны з іх злачыўцаў перанесьці з сабой у камару нож і, калі хто прабаваў супраціўіцца, — пагроза нажа была апошнім аргумэнтам.*

*Пакрыўджаныя прабавалі жаліцца перад вастрожнай уладай. Але гэта не памагала. На масавай “прагулцы” на вялізным вастрожным панадворку або ў “уборнай” крыміналістыя распраўляліся нажом з тымі, хто адважыўся скардзіцца.*

*Я пачаў прытарноўвацца да новых абставінаў жыцьця. Знайшоўшы месца на нарах паміж двома здараўеннымі вярзіламі, разлажыў свае запасы й пачаў частаваць сваіх новых суседзяў. Неўзабаве з іншых нараў пачалі злазіць нейкія тыпы і наближацца да нас з выглядам галодных ваўкоў.*

*— Ну! Чаго тут! Пайшлі вон! — рэагавалі мае новыя апякуны. — Усіх адзін чалавек не накорміць!»*

## Канцлагер у манастыры

Мінскі канцлагер быў арганізаваны ў цэнтры горада, у былым манастыры. Цяпер у некалі культавых будынках, прама за Ратушай, размешчаны архіў і гасцінічны комплекс «Манастырскі». Будынак, безумоўна, быў вельмі прыдатны для канцэнтрацыі несавецкіх элементаў. Нявольнікі лагера дзяліліся на групы: з правам вываду на знешнія працы і без права выхаду за калючы дрот. Асуджаныя па палітычных артыкулах, у асноўным, былі пазбаўленыя магчымасці працаваць па-за лагерам і занятыя былі ў майстэрнях. Тыя ж, хто выходзіў пад канвоем за калючы дрот горада, у вялікіх і малых групах давалі падпіску пра кругавую паруку. За ўцёкі аднаго з групы каралі ўсіх. Больш чым траціна зняволеных была занятая на сельгасработах у маёнтку «Малая Сляпянка».

У лагер траплялі як за канкрэтную «віну» перад новай уладай, так і проста «падазроныя». Так, напрыклад, «Іванаўская Марыя Іосіфаўна, паступіла ў лагер 13 ліпеня 1921 г. 23 гады, дваранка, паходзіць з вёскі Суднікі Койданаўскай воласці. Беларуска, каталічка, хатняя адукацыя. Арыштаваная як падазроная. Выпіска з прысуду рэвалюцыйнага трыбунала ад 7 ліпеня 1921 г. “заключыць у канцлагер як падазроную на 1 год”».

Заклапочаны «рацыянальным выкарыстаннем працы зняволеных» (цытата з рапарту), камендант Осіпаў прапанаваў наркаму ўнутраных спраў ССРБ Язэпу Адамовічу сваю кваліфікацыю працоўнай сілы нявольнікаў і спосабы яе выкарыстання. «...Зняволеных, — з энтузіязмам рапартаваў ён, — можна смела падзяліць на 4 асноўныя групы: 1) прафспекулянтаў, бандытаў, к/р (контррэвалюцыянераў. — Аўт.) і закладнікаў; 2) савецкіх супрацоўнікаў, асуджаных за сабатаж, злачынствы па пасадзе і інш., 3) кваліфікаваных рабочых і 4) работнікаў зямлі». Першую групу начальнік лагера прапаноўваў «кінуць усю цалкам на цяжкую фізічную працу», каб не заставалася ні часу, ні сіл на барацьбу з рэжымам. Другая — па абставінах (усё ж свае). Трэцяя група рыхтавалася для працы ў майстэрнях. Чацвёртую «я б меркаваў выкарыстаць у звыклай абстаноўцы» — па-гаспадарску распараджаўся новымі рабамі начальнік, фронт работ для якіх быў у Малой Сляпянцы.

Мінскі лагер — толькі адзін у павуцінні дагулагаўскай крапаснай сістэмы працы. У працах Леніна можна знайсці дастаткова выказванняў пра «карысць» канцлагераў. Канцлагер з 1922-га называўся ўжо лагерам прымусовай працы.

## Каты ў руках катаў

Гістарычная логіка, аднак, прадугледжвае не толькі дзеянне, але і наступствы, пакаранне за злачынства. 15 сакавіка 1938 года быў расстраляны Генрых Ягода. Калісьці ўсемагутны кіраўнік НКУС і стваральнік ГУЛАГу. Першы ў савецкай гісторыі генеральны камісар дзяржбяспекі. Менавіта ён быў стваральнікам сістэмы, якая бязлітасна перамолвала ўсіх, незалежна ад рангу і палітычных поглядаў, і сам ён урэшце стаў яе ахвярай. Гэта гісторыя пра аднаго з катаў вышэйшага эшалону, але кампанія ліквідацыі яго кадраў закранула і розныя куткі Беларусі.

Цытата з архіўнай справы: «Памочнік упаўнаважанага Слуцкага гарадскога аддзелу НКУС Галубкін С.М. на допыце 29 траўня 1939 г. заявіў: “Першы раз я працаваў следчым у Слуцку з 26 сакавіка па 23 красавіка 1937 г. і другі раз — з 8 траўня па 29 снежня 1938 г... Я прыехаў у Слуцк і з'явіўся да свайго начальніка Гласкова, які заявіў, што арыштаваныя нашага раёна ўсе ідуць на расстрэл і што мы спаборнічаем з Грэскім райаддзелам НКУС, і мы ідзем наперадзе... І, канешне, сцяг чырвоны атрымалі як узнагароду». Спаборніцтва па колькасці расстраляных — звычайная практыка карнікаў у той час: за чырвоны сцяг змагаліся і з Дзяржынскім раёнам, і з іншымі. Справы апазіцыянераў і «шпіёнаў» пяклі як бліны. Але ж і самі чэкісты трапілі пад гэты каток. Той жа Галубкін на допыце паведамляў: «Над арыштаваным Бялькевічам я прымяняў меры фізічнага ўздзеяння. Я садзіў яго на рог крэсла, пасля чаго ён прызнаўся, што з'яўляецца шпіёнам. Пратакол допыту я прынёс Гласкову, які перарабіў увесь пратакол допыту, дзе людзі, названыя Бялькевічам як знаёмыя, аказаліся шпіёнамі... Чарговыя запісы рабіліся алоўкам — і адразу падпісваліся арыштаванымі...»

Жахлівыя гісторыі следчага Галубкіна ў справе дапаўняюцца паказаннямі тагачаснага начальніка Слуцкай турмы Крэмерава С.А.: «...У 1937–1938 гадах было многа выпадкаў, калі заключаных са следства ў турму дастаўлялі ўжо збітымі... Арыштаваных трымалі ў рэжымных камерах, дзе легчы і прысесці было немагчыма (замест 6 чалавек трымалі 60–70). Пухлі ногі, людзі страчвалі прытомнасць... быў закрыты доступ пракурорскага нагляду».

А ў справе слуцкага паўстанца Антона Зайца з вёскі Ленькі знайшоўся цікавы дакумент пра яго ката Тараканава А.С., які займаў пасаду начальніка Слуцкага гарадскога аддзелу НКУС. Ім зацікавілася следства ў 1956 годзе. «Тараканаў як кіраўнік міжраённай групы даваў падначаленым варожыя ўстаноўкі, даводзячы нормы выкрыцця арыштаваных кожнаму следчаму. Такія нормы даходзілі да пяці выкрытых у суткі на кожнага следчага. Тараканаў арганізоўваў «канвеер», «стойкі», саджаў на рог крэсла з выцягнутымі наперад рукамі і нагамі, прымушаў бясконца прысядаць, выбіваў з-пад чалавека крэсла і г.д.» І Галубкін, і Тараканаў былі расстраляныя.

Пякучае мінулае не можа прайсці «само сабой». Без асэнсавання, суда, прызнання віны і пакаяння праз некалькі дзесяцігоддзяў яно прад'яўляе прэтэнзіі сучаснасці. Замоўчваць гісторыю ахвяр немагчыма — новыя трагедыі гісторыі вяртаюць іх галасы ў сучаснасць.

# Спорт, які мы заслужылі

Сяргей КАЙКО

**Вы — заўзятар са шматгадовым стажам, але ў апошнія месяцы неяк страцілі цікавасць да спорту? Раней не прапускалі аніводнай трансляцыі, а на мінулым тыдні ганебна празявалі перамогу беларускіх баскетбалістак у кваліфікацыі да чэмпіянату Еўропы? Вас мала кранаюць трансферы Ігара Стасевіча і Ягора Філіпенкі з БАТЭ ў салігорскі «Шахцёр», а дэбют Ягора Шаранговіча ў НХЛ за «Нью-Джэрсі Дэвілс» зусім не выклікае імпэту?**




Не пужайцеся — вы не адзін такі. Разам з вамі феномен нацыянальнага спорту цяпер пераасэнсоўваюць многія тысячы беларусаў. Тыя, хто не можа ўспрымаць спартсменаў у адрыве ад іх грамадзянскай пазіцыі. Хто бачыць вялікую розніцу паміж краінай і дзяржавай — і адчувае, на чыю карысць ірве жылы вунь той атлет на пятай дарожцы. І нарэшце, каму баліць сёння ў першую чаргу за рэпрэсаваных, пацярпелых, палітзняволеных — і за гэтай шчырай эмпатыяй ён белага свету пакуль не бачыць.

Аднак ёсць добрая навіна. Хай цяпер спорт адышоў у цень — але ён абавязкова вернецца, калі цень зменіцца светам. І зойме такое месца ў новай Беларусі, якое і мусіць быць у краіне з чалавечым, дэмакратычным і цывілізаваным абліччам.

Давайце ўявім нашу спартыўную рэчаіснасць пасля Лукашэнкі, тым больш што прадбачыць гэта зусім не складана, а вельмі нават лёгка і прыемна.

## ТАКІМ ЧЫНАМ, У НОВАЙ БЕЛАРУСІ СПОРТ БУДЗЕ...

### ...адлюстроўваць нацыянальныя каштоўнасці

Беларускія спартыўныя чыноўнікі часта наракаюць: чаму гэта нашы каманды і асобныя атлеты да і пасля спаборніцтваў не спяваюць дзяржаўны гімн. Стаяць, маўляў, як сычы, і нават рот не раскрыюць. Ці не дарэмна родная дзяржава корміць іх, падшыванцаў? Вунь той хоць вуснамі трохі паварушыў — маладзец, трэба даць яму талоны на ўзмоцненае харчаванне.

Калі сур'ёзна, то праблема сапраўды існуе. Не з гімнам — спяваць яго ці не, прыватная справа кожнага. Хутчэй, увогуле з нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй, бо кім мы ёсць — на гэта пытанне сучасная Беларусь дагэтуль не адказала. Афіцыйная сімволіка ў нас фактычна засталася савецкая, мова навокал дамінуе руская, а капітан футбольнай зборнай можа напісаць у інстаграме, што гуляе за «Белоруссию». І дзе тут прытуліцца нармальнаму пасіянарыю, каб адчуць тую самую повязь, якая дапамагае перамагаць італьянцам і іспанцам, амерыканцам і грузінам, палякам і літоўцам?

Балазе, у той Беларусі, да якой мы рухаемся складанымі сцежкамі гістарычнага развіцця, гэта праблема паспяхова вырашыцца. Бо нездарма казалі яшчэ ў жніўні: беларусы нарэшце нараджаюць нацыю. Калі працэс скончыцца, знікне і гэты мянтальны кагнітыўны дысананс.

Невядома, ці набудзе бел-чырвона-белая сімволіка адразу афіцыйны статус, але кідаць праз яе за краты дакладна перастануць. І — тут можаце не сумнявацца — ці не першае, што ў нас насычана перафарбуецца ў белае і чырвонае, гэта будуць трыбуны стадыёнаў і гульнявых арэн. Апошнія месяцы сакралізавалі гэтыя сімвалы, дый раней ніхто са спартсменаў іх не цураўся — хутчэй наадварот.

А да гэтага дадасца і ўсё астатняе. Бо калі нацыя нарадзілася, то тое ўжо незваротна. Свае ўласныя каштоўнасці выявяцца, і мы яшчэ падзівімся, як іх у нас багата. І як актыўна распаўсюд прасоўваецца — і як для таго непатрэбны ўсялякія ідэолагі на дзяржаўным утрыманні.

**Невядома, ці набудзе бел-чырвона-белая сімволіка адразу афіцыйны статус, але можаце не сумнявацца — ці не першае, што ў нас перафарбуецца ў белае і чырвонае, будуць трыбуны стадыёнаў і гульнявых арэн**

А там ужо справа дойдзе і да спявання гімна, які б ён у нас не быў. Бо надта ж красамоўная намалявалася выява перад нядаўняй гульнёй узгаданых баскетбалістак з полькамі. Пакуль гучаў гімн, нашы дзяўчаты стаялі адна ад другой на піянерскай адлегласці, з кіслымі і каменнымі тварамі, нібыта вырашылі музыку проста перачакаць. Саперніцы ў той жа час абняліся, узялі ў фокус нацыянальны сцяг — і ў меру сіл і музыкальнага слыху выканалі «Яшчэ польска не згінела».

Аднойчы гэтак зможам і мы.

### ...рэальна аб'ядноўваць беларусаў

Даўно заўважана, што змрочныя часы і агульная нястача гуртуюць людзей, абуджаюць салідарнасць. Як гэта выглядае на вуліцах, мы памятаем з уласнага вопыту — узгадваюцца шматтысячныя пратэсты і ўсемагчымыя акцыі і формы падтрымкі. Як гэта выглядае ў спорце, нам лепш за ўсё распавядуць суседзі-ўкраінцы.

Сталыя заўзятары ведаюць, а лёгкія на пад'ём бачылі на свае вочы, што адбываецца ў горадзе і на стадыёне, калі туды прыязджае гуляць футбольная зборная Украіны. Аўтару гэтых радкоў даводзілася падарожнічаць на Поўдзень і падзяляць з мясцовымі гэтыя хвалі патрыятычнага ўздыму — у Кіеве, Львове, Данецку. Пасля першага і тым больш другога Майдану футбол для ўкраінцаў адназначна перасек межы «проста гульні» і стаў з'явай, якая падкрэслівае і мацуе нацыянальныя муры народа.

Сваё «Ще не вмерла...» яны спяваюць усім стадыёнам. Падчас матчу дзясяткі тысяч падтрымліваюць сваю каманду так, быццам ад выніку гульні залежыць іх асабісты лёс. У Львове на футболе гімн спяваюць нават мажныя цёткі-білецёркі на ўваходзе на сектар — выглядае гэты зачаравальна, да мурашак.

Нам гэтага вельмі бракуе сёння, як бракавала ўчора і пазаўчора. Неяк так сталася, што тыповы беларускі заўзятар не адчувае сябе працягам сваёй зборнай, не бачыць у ёй свайго адлюстравання, не асацыюе яе з сабой. Стадыёны мы запаўняем толькі ў дні, калі да нас прыязджаюць зорныя саперніка. Нашы паводзіны на трыбунах падобныя да паводзінаў гледачоў у тэатры. Эстэтыку гульні мы ацаніць умеем, але каб яна пранізвала наскрозь, ахоплівала тым асаблівым нацыянальным пачуццём... Такога з намі не было, здаецца, з малафееўскіх часоў — 2001–2002 гадоў, — калі беларускія футбалісты на паўнюткім стадыёне «Дынама» разносілі палякаў ці здабывалі эпічную вікторыю над нарвежцамі.

Мінулі тыя часы — і цяпер нам зручней паўтыкаць на футболе ў тэлефон ды абмеркаваць чарговы раман ці заробкі лепшага нападаючага альбо варатара.

Часам даходзіць да абсурду. Летам 2019-га зборная Беларусі сустракалася ў Барысаве з зорнымі немцамі, і так сталася, што частка гледачоў падтрымлівала з трыбун... саперніка. Легендарны галкіпер «бундэсцім» Мануэль Нойер пасля агаломшана дзівіўся: «Яны заўзелі за нас, а не за сваю краіну. Як такое магчыма?!»

Магчыма, Мануэль. У Беларусі і не такое магчыма. Але аднойчы гэта скончыцца. Новая эпоха абавязкова здзейсніць перапрашыўку нашай самасвядомасці — і ўсё ў нас стане на свае месцы.

### ...паўстане на рынычны шлях развіцця

Чвэрць века беларускі спорт жыве за дзяржаўны кошт, і гэта чамусьці з'яўляецца прадметам гонару ўладаў. Маўляў, дапамагаем — не тое, што іншыя, якім застаецца толькі зайздросціць.

Насамрэч, гэта заганны шлях, і ніхто ў той жа Еўропе не спяшаецца яго пераймаць. Бо зрабіць са спорту аналаг стратнага калгаса, які ўвесь час чакае дзярждатацый — справа няхітрая. А вось выбудаваць жыццяздольную рынычную мадэль — гэта якраз тое, на што спрадвеку арыентаваны «загніваючы» Захад.

Заробак ад продажу тэлетрансляцый. Даходы ад рэкламы, квіткоў і абанементаў. Рэалізацыя «мерчу» — то-бок атрыбутыкі і іншай брэндаванай драбязы. Трансферныя аперацыі з высокай ліквіднасцю. Вось што даўно зрабіла сусветны спорт сапраўднай індустрыяй, якая вабіць спонсараў і інвестараў. Вось што дагэтуль недасяжна для спорту беларускага, які сілкуецца з бюджэту, спараджаючы вострыя пытанні.

Чаму футбаліст зарабляе ў разы больш за медыка? Чаму хакеісту плацяць так шчодра, што настаўнік ці пажарны можа пра тое толькі марыць? Чаму гулец салігорскага «Шахцёра» атрымлівае як дзесяць шахцёраў «Беларуськалія», з чыёй працы гэтыя астранамічныя сумы і фарміруюцца? Дай адказ, беларускі спорт. Не дае адказу... І толькі зноў і зноў выцягвае сродкі падаткаплацельшчыкаў.

У новай рэальнасці, вядома, сітуацыя зменіцца — проста іншага шляху няма. Тут адно з двух: альбо рынак, дзе кожнаму — па здольнасцях, альбо тупік, да якога мы імкліва набліжаемся. У тым жа футболе ўжо анансавана рэзкае скарачэнне датацый — і гэта толькі пачатак.

### ...кіравацца прафесіяналамі, а не прызначэнцамі

Амаль тры гады Міністэрства спорту Беларусі ўзначальвае Сяргей Кавальчук — былы ахоўнік Лукашэнкі. Нацыянальным алімпійскім камітэтам з вясны 2019-га кіруе Віктар Лукашэнка. На чале федэрацыі футбола два гады завіхаецца Уладзімір Базанаў — палкоўнік-артылерыст, былы афганец. Галоўны чалавек у беларускім баскетболе — першы намеснік лукашэнкаўскай адміністрацыі Максім Рыжанкоў.

Набліжаныя да першай асобы, гульцы яго хакейнай каманды, буйныя дзяржчыноўнікі, генералы ды палкоўнікі... Каго толькі не прызначалі на кіруючыя пасады ў беларускім спорце апошнія гады і дзесяцігоддзі! Як далёка яны былі ад гэтай сваёй «сінекуры» ў плане доследу і ведаў... Пра аднаго з такіх футбольны трэнер Анатоль Байдачны неяк выказаўся: «Ён не адрозніць мяч ад моркаўкі».

Зразумела, што нічога асабліва добрага з практыкі такіх прызначэнняў не было і не будзе. Бо адміністрацыйны рэсурс — дрэнная замена прафесіяналізму, спецыяльнай адукацыі і спартыўнаму бэкграунду. Спортам мусяць кіраваць профільныя адмыслоўцы па тым жа прынцыпе, згодна з якім боты павінен шыць шавец, а пірагі пячы — пекар.

Аднойчы так у нас усё і будзе. Кожны зоймецца сваёй справай, а рудыменты старой эпохі мы забудзем як нядалы сон. І спорт беларускі падымецца на іншы ўзровень — і не толькі спорт.

Але ж пакуль Беларусь жыве па-ранейшаму. І напрыканцы для вас свежая навіна. Нядаўна ў клубе «Дынама» з Брэста прызначылі новага спартыўнага дырэктара. Чалавека, напэўна, добрага, аднак яўна няпростага. Да з'яўлення ў футболе ён кіраваў брэсцкім ЦУМам.

# Дзень народзінаў за кратамі

**Мы вырашылі распачаць новую рубрыку, дзе будзем імкнуцца максімальна збіраць інфармацыю пра тых, хто сустрэне свой чарговы дзень народзінаў за кратамі.**



Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай, а можа адправіць яму грашовы перавод да свята. Магчыма, хтосьці захоча даслаць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго апублікавалі.

У лютым ужо адзначылі дзень народзінаў **Алег Корбан,** лідар грамадскай ініцыятывы «Альтэрнатыва» (4 лютага) і **Яўген Афнагель** актывіст «Еўрапейскай Беларусі» (7 лютага).

8 лютага 20 гадоў споўнілася **Вячаславу Шэлямету.** А 9 лютага свой 26-ы дзень народзінаў сустрэў Марк Антонаў, які быў затрыманы 27 лістапада ў Брэсце па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Брэсце 10 жніўня. Утрымліваецца ў СІЗА-7 у Брэсце.

10 лютага 35 гадоў споўнілася **Аляксандру Геджадзэ** — грамадзяніну Расіі. Яго затрымалі 27 кастрычніка, пазней яму было прад'яўлена абвінавачванне па ч. 1 арт. 342 КК. Знаходзіцца ў СІЗА-1 у Мінску.

**14 лютага** 48 гадоў споўніцца **Уладзіміру Шуставу** — індывідуальнаму прадпрымальніку з Магілёва. У мінулым Шустаў быў камандзірам падраздзялення АМАП і супрацоўнікам службы аховы Лукашэнкі. Абвінавачаны і асуджаны па артыкуле аб наўмысным ужыванні гвалту ў дачыненні да міліцыянта падчас разгону людзей 10 жніўня ў цэнтры Магілёва (арт. 364 Крымінальнага кодэксу).

У той вечар Уладзімір Шустаў быў у цэнтры горада каля кінатэатры «Радзіма», дзе адбываўся разгон мірных пратэстоўцаў. Па словах Шустава, ён нікога не біў, яго першага ўдарылі дубінкай па галаве. Спатыкнуўшыся ад удару і падаючы наперад, ён закрануў галавой тулава пацярпелага ўчастковага інспектара міліцыі Аляксандра Шмаянкова, а затым, спрабуючы ўтрымацца, ухапіўся за яго ногі. З-за гэтага міліцыянт упаў на ягадзіцы. Шустаў быў збіты.

17 лістапада ў Ленінскім судзе Магілёва вынесены прысуд па крымінальнай справе індывідуальнага прадпрымальніка Уладзіміра Шуставa: ён асуджаны на тры гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў Следчай турме–4 у Магілёве.

**14 лютага** Дзень народзінаў адзначыць і **Ксенія Луцкіна.** Да жніўня 2020 года Ксенія Луцкіна працавала ў Белтэлерадыёкампаніі. Пасля выбараў яна далучылася да страйку супрацоўнікаў холдынгу, а затым сышла з пазіцыі карэспандэнта тэлеканала «Беларусь 2» і ўвайшла ў асноўны склад Каардынацыйнай рады.

Пазней Ксенія казала пра тое, што разам з іншымі журналістамі, што звольніліся з дзяржаўных СМІ, яна плануе стварыць «альтэрнатыўнае тэлебачанне» на YouTube. Праект развіваўся ў тым ліку пры ўдзеле Акадэміі Прэс-клуба. Першыя перадачы былі запісаныя, запуск павінен быў адбыцца ў студзені.

Ксенію затрымалі 22 снежня на бульвары Мулявіна — недалёка ад ЦУМа, куды яна выйшла за пакупкамі. На працягу чатырох гадзін — прыкладна да 20.30 — дома ў Ксеніі праходзіўператрус (або агляд). У яе канфіскавалі кампутар, тэлефон, флэшкі і дакументы. 31 снежня стала вядома, што Ксеніі Луцкінай прад'яўленае абвінавачванне па ч. 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэксу — ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры. Цяпер Ксенія ўтрымліваецца ў СІЗА-1 на вул. Валадарскага.

**15 лютага** 20-годдзе адзначыць **Яўген Каханоўскі** — жыхар Жлобіна, які быў затрыманы 27 жніўня. На камеру ён прызнаў віну ва ўдзеле ў беспарадках у горадзе. Як высветлілася пазней, ён зрабіў гэта пад прымусам. Затрымалі яго таму, што ён нібыта быў зафіксаваны на камеры крамы «Суседзі», што недалёка ад Палаца металургаў, у дзень, калі праходзіла акцыя пратэсту.

Яўгену Каханоўскаму было прад'яўлена абвінавачванне па падзеях 9–13 жніўня па арт. 342 Крымінальнага кодэкса — «Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак». Перад самым судом стала вядома, што яму таксама інкрымінуюць гвалт у дачыненні да сілавікоў (арт. 364 КК).

На судзе Яўген сваёй віны не прызнаў. Ён паведаміў, што прызнанне віны на камеру было зробленае пад ціскам. 5 лютага суд прызнаў яго вінаватым і прысудзіў пазбаўленне волі на 3 гады і 6 месяцаў калоніі агульнага рэжыму. Яўген Каханоўскі ўтрымліваецца ў СІЗА Гомеля.

**18 лютага** свой 19-ы дзень нараджэння сустрэне **Сафія Малашэвіч.** У першы раз была затрыманая 6 верасня на акцыі пратэсту «Марш адзінства», падчас якой яна балончыкам з фарбай малявала на паверхні шчытоў спецыяльных сродкаў загароды. Яна стала падазраванай па крымінальнай справе па арт. 342 КК (удзел у групавых дзеяннях, груба парушаючых грамадскі парадак) і ч. 2 арт. 339 КК (хуліганства, здзейсненае групай асобаў). Тады яе адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе, але зноў затрымалі 30 лістапада і змясцілі пад варту. Яе пакаралі двума гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

**19 лютага** 41 год споўніцца **Руслану Парфёнаву** — сябру ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай з Мазыра. 19 жніўня, праз суткі пасля таго, як Руслан выйшаў з 10-сутакавага арышту за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, ён быў затрыманы зноў у межах крымінальнай справы аб «Масавых беспарадках».

**20 лютага** 24 гады споўніцца **Дар'і Чульцовай,** журналістцы, якая была затрыманая ў кватэры на Плошчы Переменаў толькі за тое, што сумленна выконвала сваю працу. Суд над Дар'яй і яе калегай Кацярынай Андрэевай пачаўся 9 лютага.

*Пра тых, хто будзе адзначаць Дзень народзінаў з 21 па 28 лютага, мы напішам у наступным нумары. Адрасы палітвязняў можна знайсці на сайце spring96.org*



## ВЫРАТУЙ ЖЫЦЦЁ


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## Шукаем сям'ю для Лорда Брабуса

Позна ўвечары кіроўцы на трасе атрымлівалі добрую порцыю адрэналіну, калі сабака раптам з'яўляўся перад машынамі. Ён кідаўся да кожнага аўтамабіля — шукаў свой. Верагодна, яго проста выкінулі — як непатрэбную рэч, як смецце. А ён працягваў чакаць і верыць, што гаспадар за ім вернецца, — ён жа яшчэ зусім малы і не можа без чалавека.

Валанцёрка не змагла праехаць міма, спынілася і падабрала шчанюка. Цяпер шукаем яму сям'ю.

Знаёмцеся: Лорд, Брабус, Барабусік. Нягледзячы на малы ўзрост, даволі дужы.

Яму каля трох месяцаў, апрацаваны ад глістоў ды паразітаў. Перавагу аддае натуральнай ежы, але можа перайсці на сухі корм.

Гуллівы, сацыялізаваны, добра ладзіць з іншымі сабакамі.

Чакае добрую сям'ю, якая стане сапраўдным шчасцем гэтаму маломy.

Калі гэта ваш сабака, тэлефануйце: +375 (29) 694-14-93, Ірына.

## Салодкая котачка-красуня шукае дом

Халодным лістападаўскім вечарам валанцёрка падышла да свайго аўто, каб ехаць па справах, як раптам пачула незвычайны гук з боку капота. Адкрыла і ўбачыла трох кацянят, якія спрабавалі сагрэцца. Зразумела, што іншыя справы ў той вечар былі адкладзеныя.

Дзяўчынцы каля 5 месяцаў, здаровая, апрацавана ад паразітаў, прывучана да латка, знаёмая з драпалкай.

Яе сястрычкі, нават з менш эфектнай знешнасцю, раз'ехаліся па хатах. А гэтая красуня з шыкоўнымі мармуровымі разводамі так і сядзіць у чаканні гаспадароў.

Няхай вас не бянтэжыць яе правае вока. Яно трохі мутнае, але не патрабуе лячэння! Ветэрынар паведаміў, што гэта хутчэй за ўсё вынік унутрычэраўнай інфекцыі. Малая ім бачыць, проста не так ясна, нібыта як праз бруднае шкло.

Да яркай знешнасці прыкладаецца выдатны характар — котачка гуллівая, ручная, дапытлівая.

Тэлефануйце: +375 (29) 577-85-06, Кацярына.


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

НАДРУКАВАНА ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №242

Падпісана да друку 11.02.2021. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.